# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА
15
КАП.

N 3




Чырвоная Армія у агропаходзе

ЛАДЗЯЦЬ ТРАКТАР

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

# КНІЖКА-ПОШТАЙ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

— ВЫСЫЛАЕ ЎСЕ КНІЖКІ НА БЕЛАРУСКАЙ, ЯЎРЭЙСКАЙ, РАСІЙСКАЙ, ПОЛЬСКАЙ, ЛІТОЎСКАЙ, ЛАТЫСКАЙ МОВАХ. . . . . . . . .

— ВЫКОНВАЕ ЎСЕ ЗАКАЗЫ НА КНІГІ, ЯКІЯ МАЮЦЦА НА КНІЖНЫХ СКЛАДАХ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА, НА ДРУГІ ДЗЕНЬ. . . . . . .

— ДАЕ 10% СКІДКІ ШКОЛАМ, НАРДОМАМ, БІБЛІОТЭКАМ, ХАТАМ-ЧЫТАЛЬНЯМ І ПРЫ КОЛЕКТЫЎНАЙ ВЫПІСЦЫ. . . . . . . . . . .

— ПРЫ ПЕРАСЫЛЦЫ РАЗАМ З ЗАКАЗАМ УСІХ ГРОШАЙ—ПЕРАСЫЛКУ—„КНІЖКА—ПОШТАЙ“—БЯРЭ НА СВОЙ КОШТ. . . . . . .

— НА ЗАКАЗЫ ДА 1 РУБЛЯ АБАВЯЗКОВА РАЗАМ З ЗАКАЗАМ ВЫСЫЛАЮЦЦА ГРОШЫ, НА ЗАКАЗЫ ЗВЫШ 1 РУБЛЯ ТРЭБА ПРЫСЫЛАЦЬ 25% КАШТОЎНАСЬЦІ ЗАКАЗУ. . . . . . . . . . . . .

— „КНІЖКА-ПОШТАЙ“— ЗАРАЗ-ЖА АДКАЗВАЕ НА ЎСЕ ЗАПЫТАНЬНІ АБ НОВЫХ, ШТО ВЫХОДЗЯЦЬ, КНІЖКАХ. . . . . . . . . . . . .

**ЗАКАЗЫ ПРЫСЫЛАЙЦЕ ПА АДРАСУ:**
**МЕНСК, БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА**
**КНІЖКА—ПОШТАЙ**

НА

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

**Орган ЦК КП(б)Б**

**Выходзіць 2 разы на м-ц.**

**ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК—**

**Абагульвае** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйнаму будаўніцтву і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Вывучае** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных організацый, абгаварвае мэтоды і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**Дае** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыста матэрыялы—факты, лічбы, па пытаньнях бягучай працы.

**Дапамагае** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўніком парт. асьветы, групоргам, зьвянааргам і інш.

**Асьвятляе** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Ставіць** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

**Рэгулярна зьмяшчае** крытыку і бібліографію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**Зьмяшчае** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях

**КОЖНАЯ** гарадзкая і вясковая партыйная і комсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы, зьвенавы організатар, кожны партыйны актывісты—павінен падпісацца на часопіс „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.

**ПАДПІСВАЙЦЕСЯ**

**НА ГОД**

# 1930

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, вул. К. Маркса, 14, ЦК КП(б)Б. Рэдакц. часопісу „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:**

Бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва—**Менск, Пляц Волі, № 5.** Аддзелам падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР—**Менск, Савецкая, 54** і усе паштовыя аддзяленьні і лістаносцы.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . . . | 25 кап. |
| „ 3 месяцы . . . . . | 75 кап. |
| „ 6 месяцаў . . . . | 1 р. 50 кап. |
| „ 1 год . . . . . | 2 р. 75 кап. |

**Кошт асобнага нумару—15 кап.**

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

10 лютага 1930

N 3

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 81




Выпрабаваньне трыера

Фото С. Грына

# ПЛЯНЫ, ПЕРАКУЛЕНЫЯ ЖЫЦЬЦЁМ

**Нарыс РЫГОРА ЛАХМАТАГА**

Далёкая ўскраіна Гомлю. У бок ад вакзала, сьціснутая буйнымі прамысловымі прадпрыемствамі, вёска Ціценка нібы спуджана прысела, са зьдзіўленьнем паглядаючы, што робіцца навокал.

А дзівіцца ёсьць чаго гэтай маленькай вёсцы.



Як будаваўся Гомельмашбуд—фасадны бок заводу



Устаноўка фэрм



Зборачны корпус

Здавалася, яшчэ зусім нядаўна перад ёю багата цьвіў і красаваўся вялікі пладовы сад князя Паскевіча. Здавалася, зусім нядаўна ціценская моладзь атрымлівала, пушчаныя рукою князёвых чаркесаў, набоі бакасавага шроту ў самыя непрадугледжаныя месцы і, здавалася, як быццам, учора некаторыя хлопцы з моладзі падпадалі пад бязьлітаснае катаваньне мокрымі вяроўкамі за крадзеж князёвых яблыкаў, ігруш і іншых смачных рэчаў.

Мінуў час. Наляцела рэволюцыя, зьмяла князёў з іхнымі чаркесамі і гайдукамі. Зарубцаваліся на сьпінах ціценкаўскіх хлопцаў сьляды мокрых вяровак і стрэльбавых падарункаў, зышлі з памяці начныя напады на княскі сад. Шмат чаго забылася, шмат ня стала, але князёў сад заставаўся гэткім-жа, якім ён быў і дзесяткі гадоў таму назад. Толькі належаў ён ужо ня князю, а Гомельскаму Гарсавету.

Ня была ў злосьці больш Ціценка з садам. Пасябравалі. Кожную восень хадзілі ціценкаўскія дзяўчаты зьбіраць залацістыя наліўныя плады. Пасябравалі моцна і надоўга.

Але вось прыйшоў 1928 год. Аднэю прыгожаю летняю раніцаю ў сад зьявіліся нейкія людзі ў рабочым адзеньні, у інжынэрскіх шапках. Пакруціліся людзі, вымералі плошчу, палічылі дрэвы і пайшлі.

А праз некаторы час у сад рушылі натоўпы рабочых з піламі, з сякерамі. Пачалася праца. З лёгкім стогнам падалі падсечаныя пад корань далікатныя яблыкі. Цяжка вохкаючы і крэкчучы, грукаліся на зямлю старыя ігрушы. Засмучанаківалі галовамі рабочыя.

— Эх, шкада сячы. Гэта-ж дрэва якое! Прыгожасьць. Ды нічога не папішаш. Завод больш патрэбны.

Зьдзіўлена паглядвалі на расправу з садам ціценкаўскія сяляне. Пыталіся:

— На што гэта сад сячыцё? Дрэва не шкадуеце?

— Трэба, браткі, трэба. Завод будзем будаваць, Гомсельмашбуд. Трэба.

І яны расказвалі сялянам, які завод тут будзе будавацца.

Гомсельмашбуд. Гэта значыць, завод па вырабу сельскагаспадарчых машын. Гэта значыць, 80 тысяч арфаў, 55 тысяч саломарэзак, 8 тысяч малатарняў і 8000 конных прыводаў штогод. Вось вытворчая програма будучага заводу. Шэраг вялікіх будынкаў. Некалькі тысяч новых рабочых і штогодная сямімільённая вытворчая програма.

Вёска разгортвае працу. Ёй трэба машыны, значыць, трэба будаваць завод.

Здаволены былі ціценкаўскія сяляне такім тлумачэньнем. Мала таго, яны вялікімі партыямі ўжо праз месяц прынялі самы чынны ўдзел у рабоце. Секлі дрэвы, капалі канавы, закладалі фундаманты пад будучыя заводзкія будынкі і марылі:

— Вось пабудуем, а тады зусім тутака застанемся. Працаваць будзем. Фабрычнымі станем.

Часта на пабудову прыяжджалі кіраўнікі Белмэталётрэсту і ВСНГБ, ізноў нешта вымяралі, нешта вылічвалі. Плошча будаўніцтва павялічвалася. Праца ішла.

* * *

1930 год. Месца, на якім некалі красаваўся сад, зьмянілася. Некалькі вялізных будынкаў раскінулася на плошчы ў 40 гектараў. Вузкія істужкі рэек зьмейкамі завіліся паміж будынкаў. За паўтары гады на месцы сьсечанага саду вырасла буйнейшае прамысловае прадпрыемства — Гомсельмашбуд. Гэта значыць, будынкі кавальскага, дрэваапрацоўчага, зборачнага, гісэрнага і іншых цэхаў. Ня будынкі, а нейкія вялізныя ліхтары. Зьверху шкло, з бакоў шкло і толькі частка сьцен—цэгла. Тутака-ж вырас і вялікі двухпаверхавы будынак—заводакіраўніцтва. Будынак скончаны, Гомсельмаш пабудаваны. Можна было прымацца за ўстаноўку машын і варштатаў. Імпартнае і сваё абсталяваньне прыбывала своечасова. Можна было прымацца за монтаж. Але... выйшла затрымка.

Усё часьцей прыяжджалі на будаўніцтва Кіраўнікі Белмэталётрэсту, усё часьцей і часьцей аб нечым дужа спрачаліся і, разглядаючы пляны вытворчай програмы, усё часьцей заклапочана хмурылі бровы.

Што рабіць?

Вытворчую програму трэба зьмяніць. Наша програма прадугледжвае вытворчасьць сельскагаспадарчых машын для індывідуальных сялянскіх гаспадарак, а між тым...

# КОМУНА ІМЯ ФРУНЗЭ

**(Сьмілавіцкі раён, Меншчына)**

Фото Ў. Семяняні.



Фото этуд—„У КУЗЬНІ“



Фото-этуд—„СЛУХАЮЦЬ РАДЫЁ“

І яны заклапочана паглядалі ў газэты, заклапочана нешта думалі, лічылі.

А газэты прыносілі ўсё новыя і новыя весткі з фронту колектывізацыі. Усё часьцей і часьцей на старонках друку зьяўляліся артыкулы і заметкі, якія крычалі пра зрух вёскі, сьведчылі аб вялікім пераломе ў сельскай гаспадарцы.

Ідзе суцэльная колектывізацыя. Колгасы растуць, як грыбы. Гэты вось раён колектывізаваны. У гэтай вось акрузе беднята і серадняцтва ўсе да аднаго ўваходзяць у колгасы, адпіхаючы на пяскі і балоты кулакоў.

Задумаліся будаўнікі Гомсельмашбуду.

Хто будзе купляць у нас машыны для індывідуальных гаспадарак? Каму яны патрэбны?

Паляцелі ў ВСНГБ тэлеграмы, дакладныя запіскі, тлумачэньні і г. д.

Жыцьцё нас перагнала. Вытворчыя пляны трэба зьмяніць. Мы павінны абслужыць колгасы і саўгасы.

І вось на аднэй з нарад ВСНГБ па дакладу кіраўнікоў Белмэталётрэсту ўзьніклі ажыўленыя спрэчкі. Уласна кажучы, доўга не спрачаліся. Пераканаліся ў тым, што жыцьцё перагнала намечаную вытворчую програму, што пляны неабходна мяняць, таму і рэзолюцыю такую вынесьлі:

„Лічучыся з бурным ростам колектывізацыі сельскай гаспадаркі, прызнаць прамысловае заданьне па „Гомсельмашбуду“ на 80 тысяч арфаў, 55 тысяч саломарэзак, 8 тысяч конных прывадоў—устарэлым і страціўшым сваё значэньне для сельскай гаспадаркі.

Згадзіцца з прапанованым Белмэталётрэстам прамысловым заданьнем на 5 тысяч сілосарэзак па тыпу „Папек“ і 5 тысяч па тыпу „Інтэрнацыянал“, 2 тысячы кускут па тыпу „Рэбэр“, 3 тысячы бульба-сартыровак па тыпу „Колер“, 8 тысяч прывадных саломарэзак і г. д. Вогулам, на суму ў 20 мільёнаў рублёў штогод.

Вось гэта пляны, вось гэта размах. Само жыцьцё прымусіла зьмяніць вытворчую програму і перавысіць яе ў тры разы. У тры разы за паўтара года.

* * *

Цэхі гатовы. Будынкі выведзены. Хутка на плошчы ў 40 гектараў вырастуць дадаткова 80-кватэрны дом для рабочых, будынак сталоўкі і шэраг іншых будынкаў. Хутка па тэрыторыі „Гомсельмашбуду“ пройдзе на 8 з пал. кілёмэтраў чыгуначная лінія з сваімі паравозамі і вагонамі. Хутка па цэхах у адзіным творчым імкненьні налягуць на вытворчасьць тры тысячы рабочых. У жніўні 1930 году першая партыя сілосарэзак будзе адпраўлена ў вёску.

Улетку 1930 году запыхкае, задыміць „Гомсельмашбуд“. Няма князя Паскевіча. Няма яго саду. Рэволюцыя зьмяла іх.

Ёсьць „Гомсельмашбуд“. Ёсьць індустрыя плюс колектывізацыя. Ёсьць дынаміка савецкага будаўніцтва.




Ма юнкі Паўлоускага

Апавяданьне Н. БЕЛІНЫ-ПАДГАЕЦКАГА

I.

Бушавала мяцеліца.

Вецер з злосным воем лётаў па дарогах, занесеных сьнегам. З жаласным стогнам хісталіся пад яго напорам пакрытыя інеем дрэвы лясоў, маркотна вылі галодныя ваўкі.

Страшна ў гэткую ноч у цёмным, на шмат вёрст адкінутым ад усіх культурных цэнтраў, далёкаўсходнім лесе!

Халодная дрож мімаволі закрадваецца ў душу нават самага сьмелага падарожнага, якога лёс закіне ў дзікую пушчу, закіне далёка ад людзкіх сельбішчаў, далёка ад цёплых і прытульных чалавечых хат.

І здаецца яму тады, што за кожным пнём, за кожным дрэвам, такім у ночнай цемры фантастычна-валікім, яго чакае здрадніцкая застава, што, во, зараз адтуль, з-за гэтых пакрытых інеем кустоў, выскачыць проста на яго разьюшаны голадам зьвер альбо ўзброены да зубоў лясны чалавек.

І падарожны сударгава сьціскае ў сваёй руцэ рэвальвэр альбо прыклад карабіна, праклінаючы ў душы і мяцеліцу, і гэты непраходны лес, і справу, якая прымусіла яго выправіцца ў такую далёкую дарогу.

А завея лютуе. Яна з дзікім рогатам імчыцца па зімовых прасторах, ломіць хмызьнякі і маладыя дрэвы, што трапляюцца на яе шляху, навявае сумёты белага пульхнага сьнегу пад вароты, пад дзьверы і вокны хат, закінутых у далёка-ўсходнюю глухамань сялянскіх вёсак.

Холадна і няпрыветна ў гэткую заветную ноч у дрымотным лесе. Ой, як холадна. Ой, як няпрыветна!

— Чорт-бы ўзяў гэтыя сібірскія дарогі!—Злосна бурчэў сабе пад нос капітан Папоў, змораны ідучы на чале свайго белагвардзейскага атраду па занесеных сьнегам лясных сьцежках.— І загадаў-жа мне д'ябал пакінуць Ніццу [1]) і зноў прыехаць у гэту праклятую богам краіну!.. Вось цяпер і пакутуй.

Цяпер сьнежань. Тут і на Далёкім Усходзе, на мяжы Кітаю з Савецкім Саюзам—зіма, холад, завея лютуе, вецер вые... А там, у Ніццы ружы расьцьвітаюць, сонца моцна грэе, блакітнае мора ласкава плешчыцца. Жонка з пяцігадовым сынам, які нарадзіўся ўжо ў эміграцыі, спакойна сьпяць пры адчыненым вакне, ледзь прыкрытыя лёгкім, якое ад сьпекі ўсё-ткі цяжкім здаецца, прасьціradлам.

А вось ён тут. Звонкія амэрыканскія даляры, лютая нянавісьць да пролетарскай краіны і смутная надзея вярнуць ізноў свой маёнтак, сваю фабрыку—штурхнулі яго на гэту авантуру.

— Вось тут і ўзьнімай паўстаньне ў тылу чырвоных,—ня спыняў бурчэць сам сабе Папоў, кожную хвіліну натыкаючыся на няпрыкметныя ў цемры пні.—Ды сяляне і хлебам нават накарміць адмаўляюцца, ня тое, што... А праклямацый нашых і чытаць ня хочуць. Дзе ўжо тут пра паўстаньні думаць.

І злосна сплюнуўшы ў бок, ён працягваў:

— А за мяжою ў контрразьведцы казалі, што лёгкая справа—узьняць паўстаньне ў тылу чырвоных. Як-бы ня так... Яшчэ добра, што атраду пакуль ня выдалі чырвонаармейцам, вось што. Ды чорт іх ведае, можа і выдадуць, калі ўжо не паведамілі куды ён ідзе!

[1]) Ніцца—вядомы курорт на поўдні Францыі, дзе жыве шмат эмігрантаў-белагвардзейцаў.

— Пан капітан, там аганькі ўлева ад нас замільгалі,—сказаў хтосьці з шэрагаў белагвардзейскага, апранутага ў кітайскія шынэлі, атраду. Здаецца вёска!

— Проста на вёску і трымайцеся,—даў загад свайму атраду Папоў.—Ды набіць карабіны...

— Калі добраахвотна хлеба не дадуць, адбярэм сілаю, а вёску з зямлёй зруйнуем. Няма чаго з імі болей саромецца.

І белагвардзейскі атрад, змагаючыся з мяцеліцай, шпарка рушыў па занесеных сьнегам лясных сьцежках, накіроўваючыся да вёскі, што мігцела аганькамі сярод завейнай ночы.

II.

„Братец во христе“, баптыцкі „благовесьнік“ Пётра Мікалаевіч Курачкін, вельмі ганарыўся малельным домам сэкты, пабудаваным гады тры назад у самым цэнтры невялікай, населенай пераважна баптыстымі, вёскі „Вазьдзьвіжаньне“.

Вёска была, што называецца—моцная, кулацкая. А тая пара беднякоў, якая ў гэтай вёсцы мелася, таксама ўваходзіла ў склад сэкты і таму заўсёды знаходзілася ў поўным падпарадкаваньні ў Курачкіна.

— Глядзеце, брацьці, як чыста і ўтульна заўсёды ў нашым маліцьвеным доме,—салаўём пеў Курачкін у гутарках з беднякамі вёскі.—І радыё ёсьць, і газэты, і кніжкі боскія пачытаць можна... Гэта ня тое, што ў клюбе ў Захар'еўцы, дзе бруд заўсёды і блюзнэрства.

А найбагацейшы селянін вёскі, Агіп Антосявіч, уздыхаючы дадаваў:

— Усё таму, што захар'еўцы ў бога ня вераць, антыхрысту прадаліся... Адшчапенцы!

Беднякі, моўчкі схіліўшы галавы, слухалі гэтыя прамовы сваіх кіраўнікоў, таксама ўздыхалі, думаючы сабе:

— Яно, канечна, антыхрысту прадаліся захар'еўцы... У пісаньне сьвятое ня вераць, нараджэньне Хрыстова не сьвяткуюць. Ды толькі вось—беднаце там усё-ж лепей жывецца. А ў нас што, хто сялом камандуе? Агіп Антосявіч з благавесьнікам ды Ціт Цітыч... Вядома, багатыры.

Урэшце гэтак думалі толькі некаторыя—самыя перадавыя. Іншыя-ж пакорліва слухалі пропаведзі Курачкіна, гарліва пелі сьвятыя псальмы, цярпліва плацілі даніну сваім духоўным кіраўнікам.

— Ніхто, як бог,—гаварылі такія, калі ўжо ня ўсьцерп ім было.—Яно, канечне, цяжка бывае карыцца і Агіпу Антосявічу падпарадкавацца. Яно, канечне, што і казаць... Ды затое да бога бліжэй, да царства нябеснага!

Так і бегла жыцьцё ў баптыцкім сяле Вазьдзьвіжаньні. Адны прапаведвалі, наладжваючы цішком свае справы, іншыя маліліся і падпарадкаваліся.

* * *

Пётра Мікалаевіч Курачкін быў вельмі здаволены сваёй сягонешняй пропаведзьдзю. Яно праўда і тэма была на рэдкасьць удзячная: пра спакой усяго сьвету, пра вялікі грэх забіваць нават сваіх ворагаў, пра тое, што ўсе людзі браты.

А падзеі, якія адбываліся ў гэты час недалёка ад вёскі Вазьдзьвіжаньне на савецка-кітайскай мяжы, рабілі гэту пропаведзь „братца-благавесьніка“ яшчэ больш цікавай, яшчэ больш актуальнай.

Праўда, Пётра Мікалаевіч Курачкін у сваёй шчырай пропаведзі ані слова не сказаў ні пра Савецкі Саюз, ні пра Кітай,—для гэтага ён быў надта тонкі палітык. Але да чаго хіліў „братец“ Курачкін, кажучы пра супакой усяго сьвету і пра любоў да ворагаў, было зразумела ўсім і без тлумачэньняў.

— Добрая пропаведзь... карысная пропаведзь,—казаў, калі ўся пастаронььняя „брація“ выйшла з маліцьвенага дому, Агіп Антосявіч Курачкін,—важна распраўляючы свае вусы і цяжка пакрэкваючы.—Шчырая праўда, што сьвет пагруз у грахох, што чалавек на чалавека ваўком глядзіць...

І, зьвяртаючыся да свайго суседа крамніка Ціта Цітавіча Калясьніка, ён пытаўся:

— А вы як думаеце пра гэта, Ціт Цітыч?

# „НАЙ ЛЭБН“

ЮРКА ЛЯВОННЫ

Шмат пражытага працячэ,
у нябыт адыйдзе, ня йначай,
і, як брудныя гетто з вачэй
і як сьлед нядолі
жабрачай.

Час на строме
жыцьцёвых конвэераў
Носіць многа віхураў і зьмен...
У маёнтку паноў Кальмэераў
Не пазнаць старасьвецкіх сьцен!

Ледзь у восеньскай бойцы рабіна
Загараецца сотняй ран,—
Піша Мойшэ
малодшаму сыну
У далёкі Біра-Біджан:

— „О, мой хлопчык, мой любы Лэйбэ,—
Шмат навін,—
і жыцьцё ня горкне.
На вясну, вось, мяркуем „Най-Лэбн“*)
Аб'яднаць з „Чырвонай Зоркай“!“

...Вечар чорныя сукны павесіў,
моўкнуць мудрыя песьні дратоў,—
Выпаўзае з-за хмараў месік
У гарохавым
паліто.

Стане месік той варажыць
Ручаямі нямога срэбра.
Не пачуеш навокал „жыд!“,—
...Працаваць, працаваць
Трэба!

Колектыўная праца
ня згасьне.
Ў ёй—вялікага Заўтра маяк.
Гэта ведае кожны колгасьнік:
Беларус, яўрэй і паляк!

*) „Новае жыцьцё“ — назва колгасу.



Фото Багамолава



Яўрэйскі колгас „Най лэбн“ (Новае жыцьцё) Крупскі раён Аршаншчына.
Зьверху—колгасьнікі возяць сасновыя карчы на сваю смалакурню; ніжэй—смалакурня колгасу.
Зьнізу—Інтэрнацыянальны колгас „Новы сьвет“ (Гомельшчына). Тыпы колгасьнікаў: беларус, яўрэй, паляк.



# ПЕРШЫ Ў ЭЎРОПЕ

## (Бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат)

Вялікія лічбы, грандыёзныя пляны, надзвычайна творчы ўздым працоўных мас, баявыя лёзунгі і чёткае кіраўніцтва комуністычнай партыі, соцыялістычнае спаборніцтва, сетка волатаўскіх прамысловых прадпрыемстваў плюс, суцэльная колектывізацыя вёскі—вось асноўная сыстэма выкананьня генэральнага пляну, імя якому—пяцігодка.

Мары ўзьнятай фантазіі—гаворыць заходня-эўропэйскія і амэрыканскія буржуазныя экономістыя.

Брэд вар'ятаў—як-гадзюкі, шыпяць белагвардзейцы.

Дагнаць і перагнаць—рашуча і цьвёрда кідае ў адказ пролетарыят Савецкага Саюзу.

Дагнаць і перагнаць.

* * *

Каля самага Бабруйска, там, дзе Бяроза, ледзьледзь задумаўшыся паварочвае ўлева, на высокім бугры правага берагу шырока разьмясьціўся бабруйскі дрэваапрацоўчы комбінат.

Бабруйскі комбінат—жывы прыклад выкананьня пяцігодкі. Тут усё робіцца па-новаму, па-ўдарнаму. Адно прадпрыемства вырастае за адным. І калі бела-драўляны завод будуецца, калі фабрыка канцэлярскіх і спортыўных прыладаў толькі проектуецца, то лесапільня, фанерная фабрыка, электрастанцыя і рамонтныя майстэрні ўжо працуюць.

Бабруйскі комбінат зьяўляецца цікавым і складаным комплексам прадпрыемстваў, зьвязаных між сабой аднароднай сыравінай і драўнінай. Адно прадпрыемства дапамагае другому. Лесапільня задаволіць бела-драўляны завод паўфабрыкатамі. Дробныя абрэзкі і пілавіньне ідуць на фанерную фабрыку, трапляюць пад прэс і атрымліваюцца з іх шчыльна зьбітыя сталярныя пліты, якія мы вывозім за межы. Астатнія адкіды вытворчасьці па складацай сыстэме конвэераў трапляюць на электрастанцыю, дзе і пажыраюцца топкамі вялікіх катлоў, ператвараючыся ў пару, ператвараючыся ў рухавую сілу. Комбінат-гэта ня толькі шэраг прадпрыемстваў. Комбінат—гэта складаная комбінацыя фабрык і заводаў, вакольных лясоў і Бярозы. Так, і Бярозы.

Яна танна і добра падганяе плыты. Проста да лесапільні. Яна значна патаняе транспорт. Бяроза працуе. Бяроза зьяўляецца неад'емнай часткай бабруйскага комбінату.

Экспорт. Экспорт і яшчэ раз экспорт. Вось наша задача,—гаворыць і адміністратары і рабочыя—хутка мы ўрэжамся ў міжнародны рынак, нашай продукцыяй хутка мы паспрачаемся з лепшымі прадпрыемствамі Фінляндыі, Швэцыі і Польшчы.

І ўжо спрачаюцца. Ужо прыяжджалі сюды ў Бабруйск нямецкія лесапрамыслоўцы, ужо далі паўмільённыя заказы.

Дагнаць і перагнаць.

І трэба ясна і чотка адзначыць той факт, што бабруйскія дрэваапрацоўнікі ўжо дзе-ні-дзе і перагналі. Ахова працы ў комбінаце пастаўлена на такую вышыню, аб якой нават ня мараць за мяжою. Тут ёсьць парасосы і пыласосы. Тут ёсьць паравы і паветраны апал, душы, разьдзявальні і курыльні.

Вялікая і сьветлая сталоўка, свая амбуляторыя. Будынак фабзавуча і г. д.

Так, дзе-ні-дзе перагналі. Дзе-ні-дзе даганяюць. Складаная сыстэма конвэераў зьвязвае між сабой прадпрыемствы, паскарае тэмпы вытворчасьці, патаняе яе і значна аблягчае працу.

Прадпрыемствы абсталяваны самымі лепшымі машынамі. Нямецкія лесапрамыслоўцы з зайздрасьцю і болем у душы змушаны згадзіцца з тым, што бабруйскі комбінат зьяўляецца першым у Эўропе як па абсталяваньню, так і па магутнасьці. Першы ў Эўропе—ужо ўрэзаўся ў міжнародны рынак, ужо пасылае вялікія партыі выробленай продукцыі, ужо б'е замежныя фірмы на іхных-жа рынках.

Улетку ўсе работы будуць скончаны. Улетку горы будаўнічага матэрыялу ператворацца ў будынкі дадатковых фабрык і заводаў. Да восені першы ў Эўропе дрэваапрацоўчы комбінат—пачне працаваць з поўнай нагрузкай. **Р. Л.**



**БАБРУИСКІ ДРЭВААПРАЦОЎЧЫ КОМБІНАТ**

**1) Бярвеньні з спэцыяльна-наладжанага басэйна ідуць па конвэеру ў пільню. 2) Расьпілоўка бярвеньняў. 3) Дошкі з пільні па конвэеру ідуць у сартыровачную.**

# Першая ўсебеларуская выстаўка с.-г. і прамысловасьці

Улетку 1930 г. у г. Менску адчыніцца І-ая Ўсебеларуская Выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці, у аснову арганізацыі якой пакладзены дзьве галоўныя ідэі: папершае паказаць ролю індустрыялізацыі ў перабудове сельскае гаспадаркі, каб кожны селянін пасьля агляду выстаўкі ўпэўніўся, што пакуль наша прамысловасьць ня стане фактычным кіраўніком сельскай гаспадаркі — нам з жабрацтва ня вылезьці, нам з худога каня на машыну не перасесьці; падругое паказаць процэс пераходу ад раздробленай адсталай індывідуальнай гаспадаркі да буйнага грамадзкага землякарыстаньня.

Наша задача ўпэўніць селяніна, што выхад з жабрацкага становішча, у якім ён яшче знаходзіцца, толькі ў пераходзе ад карлікавай гаспадаркі да буйнага земляробства. Выстаўка павінна быць школай індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскае гаспадаркі, якая-б магла дапамагчы самым шырокім рабочым і бядняцка серадняцкім масам пасьпяхова выканаць пяцігадовы плян соцыялістычнага будаўніцтва народнае гаспадаркі БССР, падняўшы яе на належную культурную і тэхнічную вышыню, зрабіўшы яе моцнай соцыялістычнай гаспадаркай і гэтым самым значна палепшыць культурны, бытавы і матэрыяльны ўзровень жыцьця працоўных мас.

1-я Ўсебеларуская Выстаўка павінна паказаць усім працоўным, што вызваленьне Беларусі ад абшарнікаў і капіталістых, стварэньне Савецкай улады, улады дыктатуры пролетарыяту, забясьпечыла магчымасьць шырокага разгортваньня гаспадарчага і культурнага развіцьця нашае краіны.

Вось з гэтае прычыны выстаўка мае вялікае політычнае і экономічнае значэньне.

Для таго, каб адзначыць дзень вызваленьня Беларусі ад капіталістых і абшарнікаў, урачыстае адчыненьне выстаўкі прыстасавана да дня дзесяцігодзьдзя вызваленьня Беларусі ад окупантаў.

Выстаўка мае мэтай паказаць усё тое, што ў нас ёсьць лепшага, усе нашы дасягненьні. Для таго, каб паказаць экспонаты ў больш натуральных умовах, ва ўмовах вытворчага процэсу, каб выстаўка была больш зьвязана з фабрычным і культурным асяродзішчам, месца пад выстаўку абрана на палёх вопытна-паказальных станцый Навукова-дасьледчага інстытуту, па Барысаўскаму тракту ля гор. Менску.

Пад выстаўку адведзена плошча ў 75 *га*, на якой будуць дэмонстравацца жывыя засевы і засадкі, як, напрыклад: 18 розных шматпалёвых севазваротаў на плошчы ў 9 *га*, гародныя і новыя культуры на плошчы ў 2 *га*, пладовы сад на плошчы ў 6 *га*, ягадныя кусты, клубніка, пладовы гадавальнік, гадавальнік сэлекцыйнага матэрыялу азімых і яравых, дэмонстрацыя ўплыву розных штучных угнаеньняў на ўраджай зернавых, на корань і клубняплодаў і на лён. Будуць прадэмонстраваны засевы розных траў з паказаньнем карыснасьці іх разьвядзеньня як кармоў. Значная плошча адведзена машынаспробнай станцыі, якая пакажа ў дзеяньні розныя тыпы машын і прыладаў і іх практычнае ўжываньне ў гаспадарцы.

Выстаўка будзе складацца з наступных аддзелаў:

1. Прамысловасьці (рэспубліканскай, мясцовай і саматужнай)
2. Аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі.
3. Мэханізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.
4. Працы і быту.
5. Дарожнае гаспадаркі.
6. Комунальнае гаспадаркі.
7. Навукова-асьветны.
8. Земляробства (расьлінагадоўлі, садоўніцтва, гародніцтва).
9. Жывёлагадоўлі, малочнае гаспадаркі і вэтэрынарыі.
10. Лясной гаспадаркі і паляваньня.
11. Земляўпарадкаваньня і сельбудаўніцтва.
12. Мэліорацыі, культуры балот і торфу.
13. Рыбнае гаспадаркі.
14. Дамаводзтва і быту ў сельскай гаспадарцы.
15. Нацменшасьцяй.
16. Экспорту, імпорту і гандлю.

Усе гэтыя аддзелы будуць разьмешчаны ў 40 павільёнах. Гэтымі аддзеламі будзе ахоплена ўся народная гаспадарка і культура БССР, чаму выстаўка і зьявіцца школай для працоўных мас, дзе на кожнае запытаньне можна будзе знайсьці адказ.

Каб даць магчымасьць удзельнічаць у экскурсіях на выстаўку бядняцкай часткі насельніцтва Ўрад пайшоў на ўстанаўленьне экскурсантам значных ільгот, якія будуць дыфэрэнцаваны — ад зьваўкі ў размеры 50 проц. чыгуначнага тарыфу да аплаты ўсіх выдаткаў, зьвязаных з удзельнічаньнем у экскурсіі, прычым ільготы будуць прадастаўляцца на мясцох раёнымі і акруговымі выставачнымі камітэтамі ў залежнасьці ад матэрыяльнай забясьпечанасьці той ці іншай групы насельніцтва.

Раённыя і акруговыя Выставачныя Камітэты шырока азнаёмяць насельніцтва аб часе экскурсый, прычым будзе абвяўлен тэрмін прыёму заяў ад асоб, якія пажадаюць прыняць удзел у экскурсіях.

Аднячасова з гэтым трэба мобілізаваць самадзейнасьць мясцовых арганізацый у справе адшуканьня сродкаў для правядзеньня экскурсый. Абмежавацца толькі сродкамі, якія вылучаў для гэтай справы Ўрад — ніяк немагчыма. Трэба вакол гэтага пытаньня завострыць увагу нашых коопэрацыйных арганізацый, шэф. таварystваў і іншых грамадзкіх арганізацый, якія павінны ўзяць на сябе абавязкі пасласць пэўную колькасьць экскурсантаў за свой кошт. Грошы на такую справу павінны знайсьціся. Трэба ўсё культурнае абслугоўваньне вёскі ўвязаць і падпарадкаваць мэтам выстаўкі. Калі праца ў гэтай галіне ўсіх коопэрацыйных і шэфскіх арганізацый будзе выходзіць з вышэйпастаўленых задач тады мы напэўна, зможам павялічыць і агульны лік экскурсантаў, што будзе вельмі карысна.

Пакуль што мяркуецца прапусьціць праз выстаўку 50.000 чалавек. З гэтай колькасьці ўзялі на сябе абавязак правесьці за свой кошт ЦСПСБ 4.000 рабочых і Ваенвед 2.000 чырвонаармейцаў. Астатняя колькасьць - 44.000 чал. разьмеркавана Дырэкцыяй Выстаўкі па акругах, выходзячы з агноўнай вагі акруг, прычым кожная акруга павінна пасласць ад $3\frac{1}{2}$ да $7\frac{1}{2}$ тысяч экскурсантаў.

Экскурсыі на выстаўку разьлічаны на 3 дні, ня лічачы часу падарожжа.

У мэтах дэмонстраваньня пэўнай змычкі працоўных гораду з працоўнымі вёскі профэсыянальныя саюзы г. Менску ўзялі шэфства над экскурсантамі-сялянамі і яны ў часе агляду выстаўкі будуць разьмяшчацца на кватэрах рабочых і служачых. Гэта жывая сувязь дасьць належны політычны эфэкт, бо працоўныя гораду і вёскі змогуць пазнаёміць адзін аднаго ў жывой гутарцы са сваім жыцьцём, бытам і г. д. Ад таго, як мы падрыхтуемся да выкананьня гэтай важнай з політычнага боку задачы залежыць яе посьпех; пры гэтым трэба мець на ўвазе, што з тэхнічнага боку пасьпяховае правядзеньне шэфства профсаюзаў над сялянамі справа даволі складаная, чаму і рыхтавацца да яе трэба вельмі сур'ёзна і, ня губляючы марна часу, трэба прыступіць да яе падрыхтоўкі зараз.

Вакол пытаньня арганізацыі экскурсій на выстаўку трэба стварыць грамадзкую думку, правесьці растлумачальную працу сярод рабочых і сялян, каб кожны рабочы і селянін ня толькі-б ведаў пра выстаўку, а імкнуўся-б прыняць ў той ці іншай меры ўдзел у яе правядзеньні.

Толькі тады, калі мы мобілізуем вакол гэтай справы ўсё жывое, калі мы мобілізуем вакол гэтага пытаньня шырокія пласты працоўнага насельніцтва, толькі тады мы справімся, як з арганізацыяй самае выстаўкі, так і з правядзеньнем арганізаваных экскурсій на яе.

Надаючы выстаўцы вялізарнейшае політычнае і экономічнае значаньне, неабходна ўзяць пад грамадзкі контроль усю падрыхтоўчую працу да выстаўкі. Трэба, каб лёзунг: „Рыхтуйся да выстаўкі" выконваўся ўсімі і кожным на ўсе 100 проц.



**Новаадбудаваныя карпусы фабрыкі сельска-гаспадарчых машын у Гомелі (гл. ст. 2).**

# НА ВАРЦЕ КРАІНЫ САВЕТАЎ














**У верхнім раду, налева Асобная Дальня-Ўсходняя Армія на адпачынку; направа—у акопах. У цэнтры, направа,—чырвонаармейцы Асобнай Дальня-Ўсходняй Арміі накіроўваюцца ў Маскву; налева ў цэнтры і ўнізе—чырвонаармейцы Асобнай Дальня-Ўсходняй Арміі ў Маскве на станцыі. Унізе, направа, маскоўскія рабочыя сустракаюць байцоў Асобнай Дальня-Ўсходняй Арміі, што прыбылі ў Маскву.**

# ВАРТАВЫ



Апавяданьне—ЛЕОН БЭРГІЕ[1]   Малюнкі—Л. Зусмана

— На плячо!

Раз, два, раз, два—адбівае крокі вартавы. Ён скончыў; пачынае другі. Ён як усе: мундзір раўняе іх.

Вечар; цені блукаюць вакол казармы. Прапануюць сапсутае мяса. Буржуі гораду ня прынялі яго; мяса было зварана. Для салдат яно больш падыходзіла... прымаючы пад увагу і цану. Заўтра нехта трапіць у казарменны шпіталь, а магчыма што пашлюць і яго. Забароняць есьці, дадуць крыху малака, палову пэнсіі, профіляктычную гутарку, а потым вольных пару дзён пасьля выпіскі...

Ён ня мае магчымасьці выходзіць. На дваццацімэтравым пляцы ён адбівае свае крокі, потым спыняецца, зноў ходзіць і заўсёды так. Дзьве гадзіны—два стагодзьдзі.

Пляц. На сярэдзіне—прыбіральня. Па куткох—ліхтарныя слупы. Маленькія агенчыкі зьдзекваюцца з вартавога, скачуць, пераскакваюць з аднаго месца на другое. Салдаты выходзяць: трамвай, што адыходзіць да цэнтру гораду.

А ў цэнтры? Варыэтэ; танц-залі: музыкі бяз сурдатаў... голыя рукі. Пум... пум... пум... Шпарка граюць, напалову падпяваючы ноты. Шпарка, бо плоцяць ад адыграных танцаў.

Салдаты—п'яныя. Крык, шум... Бойка. Паліцыя і гаўптвахта.

Ноч. Там на дне: царква, вялікае, як і казарма, памяшканьне. Два пляўкі цывілізацыі.

Ну, маршыруй, чаго спыніўся! Проста, ты-ж салдат! Салдат яго вялікасьці. Стой! Афіцэр. Салютуй стрэльбай свайму начальніку. Не паўставай—бо ты будзеш адзін і ў цёмным брудным склепе—у карцары.

Там пуста, але там поўна. Там тыя, хто не паслухаў загаду. Там тыя, хто за чырвоны сьцяг, за інтэрнацыяналізм, за чалавецтва... Так. Яны там— іх там шмат. Усе салдаты. Колькі пакут! Калі ты несьвядомы, дык напалову няшчасны. Але калі ты сьвядомы, калі ўсё адчуваеш, ведаеш, паўстаеш... Схавай кніжку—ідзе ў галунох.

— Ну, лайдак—ідзі пачысьці мне боты!

Супакойся: ён сказаў і вышаў:

Такіх як ён—шмат у варыэтэ, п'яных і шумных

Ідзі... уніз. 20 сходак усяго і там у ямах бяз сьвету жывуць людзі—імя якім адно: Салдат. Салдат, які не схаваў газэты, які ўсюды клікаў да змаганьня. Афіцэры завуць іх: „нягоднікамі" палка. Але яны думаюць ня лепш пра афіцэраў.

Часамі цела выходзіць з ям... і праз дзесяць хвілін пераклічка. Потым ізноў у ямы.

Вартавы ўсё ходзіць і ходзіць. Яго крокі ніколі, здаецца, ня змоўкнуць.

Зайграла труба. Іграй! Хай гудзіць трубны гук і кліча пролетараў супроць эксплёататараў. Салдаты рабочыя, інтэлігенты—да атакі супроць гэтага сьвету... Яшчэ ня скончылася ігра на трубе, як да яе далучаецца сымфонія мільёнаў інструмантаў, якія разам граюць песьню змаганьня. Адзінокі. Будка, сьвечка, агонь. Рука ў кішэні: ліст. Таварыш перадаў, каб ня бачылі начальства ў часе маршыроўкі. Разам з лістом—газэта. Забаронена строга чытаць на варце.

Ліст ад жонкі. Некалькі слоў: „Я спадзяюся, што заўтра: акушэрка была раніцою і папярэдзіла аб гэтым. Прасі водпуск. У апошнюю сераду я пакінула працаваць на заводзе. Я пасылаю табе „Le drapeau rouge"[2]) і іншае... інтымнае...

Ліст скамечаны... Крок за крокам адбівае зноў, больш нэрвова. Хадзьба—20 мэтраў; думкі ідуць далей, туды, адкуль прышоў ліст.

Ізноў зайграла труба. Пагас сьвет. Вокны ў казарме—зрабіліся чорнымі. Чорнае ўсё. Чорнае навакол. Чорная казарма і ўдзень, чорная яна і ўначы.

Яшчэ дзесяць хвілін. Стоп! Дзе газэта? Вось! Сьвечка асьвятляе маленькі кавалак газэты,.. Наблізіць яе да вачэй... Выставіць вінтоўку з будкі...



... Ідзе дзяжурны афіцэр... Ён чуў, як упала вінтоўка...

---

[1]) Леон Бэргіе—малады бэльгійскі пролетарскі пісьменьнік вядомы радам сваіх апавяданьняў. Твор „Вартавы" напісан ім у часы вайсковай службы ў акупаваных нямецкіх абласьцёх.

[2]) „Чырвоны сьцяг"—ворган ЦК КП Бэльгіі (увага перакл.).

Вялікія літары б'юць у вочы: „Забастоўка сьвярдзёлшчыкаў“. „Рабочы рух расьце“. „Жандармы стралялі ў рабочых“. „10—забітых“. Трагэдыя! Змаганьне за жыцьцё, за хлеб...

Газэта разгортваецца.

„Жыцьцё рабочых і сялян“. „Жыцьцё казармы“.

Казарма! Вартавы цікавіцца. Маленькія літары... Газэта блізка, каля вачэй... „Скандал у 15-м артылерыйскім палку“... Гэта пра яго полк... Аб чым пішуць? Але падае вінтоўка... Ідзе, дзяжурны афіцэр... Ён чуў як упала вінтоўка.

— Салдат, што ты робіш? Сьпіш? Ты заслугоўваеш вялікае кары—рапорту майору. Па-першае за тое, што дазволіў вінтоўцы ўпасьці і, па-другое, за тое, што ты ня вітаў афіцэра так, як гэта патрэбна!

— Але ў чым справа? Чаму сьвятло ў будцы? Паглядзім. Газэта? Давай сюды?.. Глядзі?..

І ўпрыгожаны зоркамі за заслугі—адышоў.

Майор. Афіцэр і ён.

— Салдат! Што рабіў ты сёньня ў сваёй будцы на варце? Чаму гарэла сьвечка?

— Я чытаў ліст ад...

— Брэшыш! Ты чытаў забароненую газэту. Газэту, дзе надрукован брахлівы артыкул пра наш полк. Мы падазраем, што ты зьяўляешся аўтарам гэтага артыкулу. Ты паслаў яго! Я прапаную капітану: „8 дзён карцару для цябе“.



... Такіх як ён—шмат у варыэтэ, п'яных і шумных.

— Пан майор! Сёньня, там далёка пакутуе жонка. Нараджаецца дзіця магчыма я ўжо бацька! Дазвольце мне свабодна выйсьці адсюль.

— Ты ня выйдзеш! Цябе выведуць!

Дзённы рапорт быў паслан у штаб. Магчыма, капітан значна павялічыць кару. Заўтра!

. . . . . . . . . . . . . .

Дзіця! Выйсьці? Вялікі мур. Маршыроўка дзьве гадзіны. Цягнік.

Там... Там...

— Дзіця!..

Перабежка? Дзяржаўная мяжа!.. Беспрацоўе!..

Адзіноцтва? Яны там—дома...

Але дом—гэта армія,—карцар!

Салдацкі карцар!

. . . . . . . . . . . . . .

Так! Назад! Спадзявацца ці што?

Карцар—нішто!

Чатыры таварышы па пакоі ўжо ёсьць там!

Ці-ж ваяка можа быць вольны?

Ён мае права думаць, але не казаць!..

...Цяжка хворая... Пры сьмерці... Бедная жанчына... Сірата дзіця...

Думкі гараць, нібы агонь у печцы каваля. Думкі—агенчыкі...

Але крыху ўздыму і з іх будзе высокае і вялікае полымя.

Пераклаў Зьм. Бе[illegible]ы.

---

# УСТАНОЎКА

ЯК СОНЦА—АГНІСТА,
ЯК СЭРЦА—НЯСПЫННА,
ПРАЦАЙ ВІХРЫСТАЙ
УЗЬНЯТА КРАІНА.
ВЫБУХАМ ТВОРЧЫМ
ЯК ІСКРАМІ ГОРН,—
ВЫЙШЛІ РАБОЧЫХ
БРЫГАДЫ
НА ФРОНТ!
ПЕСЬНІ, ЯК ВОЧЫ,
ЗАПАЛАМ ГАРАЦЬ.
— ТАВАРЫШ РАБОЧЫ,
ТЫ МУСІШ
ДАГНАЦЬ!
КРАІНА Ў ПАХОДЗЕ!
РАБОЧЫХ БРЫГАДЫ
ФАБРЫКІ ЎЗВОДЗЯЦЬ,
НІБЫ БАРЫКАДЫ.
ТЛЕЙ ВЕКАВАЯ
БАЛОТАЎ ПЯТЛЯ!
МЕЖЫ ЗЬНІКАЮЦЬ!
— ПАЎСТАЛА ЗЯМЛЯ!
ПЕСЬНІ, ЯК ВОЧЫ,
ЗАПАЛАМ
ГАРАЦЬ.
РАБОЧЫ,
НАСТАЛА
ПАРА
ПЕРАГНАЦЬ!
ПАЎСТАНЬНЕМ АХВАЧАНЫ
СКАРБЫ АБШАРАЎ.
НЯМІЛАВАЦЬ СПАДЧЫНУ,
ЗДАЦЬ КАЧАГАРУ.
ЗНАЙ,
ЦЯГНІ!
НЯХАЙ
ЦЯГНІК,
ЯК СЛОВА
МЧЫЦЦА
НАВА-
ЛЬНІЦАЙ!
ПЕРШЫ Ў СЬВЕЦЕ
ЎСІХ СТАЛЕЦЬЦЯЎ!
СЬЦЯГ
УЗЬНЯЦЬ
І ДАГ-
НАЦЬ!
НАПЕРАД,
РАЦЬ—
ПЕРА-
ГНАЦЬ!
ДАГНАЦЬ І ПЕРАГНАЦЬ!

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ.

# ПАСЬПЯХОВАЕ ПРАВЯДЗЕНЬНЕ ВЕСНАВОЕ ПАСЕЎНАЕ
# СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ РЭКОНСТРУКЦЫІ СЕ

Саўгасы і колгасы ўсяго Савецкага Саюзу, а ў тым ліку і Беларусі, энэргічна рыхтуюцца да веснавое сяўбы. У першую чаргу ідзе ачыстка насеньня (зьнізу, левы малюнак, саўгас Зазер'е, Сьмілавіцкага раёну на Меншчыне). Летась значны процант засеву быў пашкоджаны галаўнёю, у выніку чаго недабор ураджаю дасягнуў 6—7 проц. Сёлета не павінна быць засеяна ніводнага кілёграму насеньня, не прааналізаванага на галаўню. На малюнку ўнізе справа—вызначэньне галаўні ў аўсе пры дапамозе мікроскопа (Менская Цэнтральная Насенная Станцыя). Саўгас Зазер'е організаваў пры дапамозе сваіх машын ачыстку і сартыроўку насеньня ў вёсцы Ясноўка. На малюнку ўверсе справа—селянін вёскі Ясноўка глядзіць, ці добра адсартавана яго насеньне. На малюнку ўнізе, зьлева — сяляне на Ясноўскім вясковым насеннаачышчальным пункце сартуюць пры дапамозе трыера сваё насеньне. Падрыхтаваўшы ўсё насеньне, саўгасы і калгасы рыхтуюць да веснавое сяўбы і свае машыны,—трактары і г. д. (Першы малюнак зьверху—саўгас Зазер'е, зьнізу, у сярэдзіне—саўгас „Серп", Меншчына.





СЁЛЕТНЯЯ ВЕСНАВАЯ ПАСЕЎНАЯ КАМПАНІЯ—ПАВІННА НАНЕСЬ
КАХ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ ЭЛЕМЭНТАЎ ВЁСКІ, ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ПО
НАГА РУХУ НАД ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКАЙ, НАД КУЛАЦ
-РАМ. ЛЁЗУНГ ПАРТЫІ АБ 100% КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ ВЁСКІ ПАВІНЕН



# ...ПАСЕ...УНАЕ КАМПАНІІ ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ПОСЬПЕХ ...ТРУКЦ...ЫІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ





...АЯ КАМПАН... ВІННА НАНЕСЬЦІ РАШУЧЫ ЎДАР ПА РЭШТ- ...ОНТАЎ ВЁСК... СЬПЕЧЫЦЬ ПОЎНУЮ ПЕРАМОГУ КОЛГАС- ...НАЙ ГАСПА...ЙІ, НАД КУЛАЦКА-ПРЫШЧЭПАЎСКІМ ХУТА- ...КОЛЕКТЫВІ... ВЁСКІ ПАВІНЕН БЫЦЬ І БУДЗЕ ВЫКАНАНЫ.







# ПАЎСТАНЬНЕ  ПРАВАСЛАЎНЫХ 

Фэльетон **ЦІМ. ЗАРЭЧНАГА** **Малюнкі Я. Розанава**

## ПРОЛЁГ

Пачатак дзіўны і рамантычны:

„На паперти божьего храма
Оборванный нищий стоит"...

...Ліру трымае ў руках... гукі жалю і дакору на лёс жабрачы жменяй расьсявае па марозе. Ліра плача, скуголіць, долю сіраціну бабыльскую аплаквае, Лазара-багатыра апявае.

Ідуць паляшукі да Тураўскай царквы ў сьнегавых сьвітках і раманаўскіх футрах, глядзяць на лірніка, божым чалавекам празываюць. Зьмілуецца які дзядзька з жабрака, монэту мядзяную кіне ў шапку. Дзякуе стары, шчасьця і дзяцей зычыць добраму ахвяравальніку. А дзядзька ідзе далей, хітра аглядваецца на парафіян, і сьцежка скрыпіць пад яго нагамі, і радасьць інеем кладзецца на каўнер. На ганку царквы дзядзька абтрасе сьнег з футры, разгладзе бараду, зьніме шапку, перажагнаецца,—і толькі тады пераступіць парог.

У самой царкве, калі аглянуцца назад, можна ўбачыць пекла і дракона з таго сьвету. Чарната сажы бунтуецца ў завірушным сьмерчы, протубэранцамі бушае ў сьмяротным полымі, лаваю Вэзувія крышыць косьці грахаводнікаў—інквізіцыя і жахі пякельныя. Дэмон замёр у дзікунскай велічы ўладара мільёнаў душ; вочы гарачы крывёю падонкаў чалавецтва, і чорцікі бегаюць у гэтых вачох; глянуць сяляне на дракона—іголкі адчуваюць у пятках і ахапкі грахоў на сэрцы.

На левай і правай сьценах—суровыя лікі сьвятых. Пустэльнікі-старцы настаўнікамі глядзяць на ўсіх і на кожнага ў пасобку з парафіян. Босыя, з кіямі ў руках, апранутыя па апошняй модзе—накідка-посьцілка на шкілеце і дэкольтэ на грудной клетцы, з павуціньнем зморшчыкаў на тварах і жоўтую мудрасьці ў вачох,—яны, пракокі-златавусты, перасьпелая сьвятасьць стагодзьдзяў,—здаюцца ачарсьцьвелымі ценямі паміраючых сілуэтаў учарайшага дня.

Па-над самымі „царскімі варотамі" „тайная вячэра" адбываецца. Іуда-провокатар падазронна аглядае Ісуса, быццам вылічвае за колькі срэбранікаў прадаць сына божага. Апостал Пятро сядзіць у задуме, як-бы адчувае недалёкую будучыню з праклятымі пеўнямі. Хрыстос, вялікшы ў сьвеце алхэмік, не зварачвае ўвагі на думы сваіх вучняў, спакойна вырабляе віно з вады па саматужнаму мэтоду.

А з самых „царскіх варот" поп Кароль выходзіць. Рыза кроплямі сьлязінак іскрыцца, эпітрахіль на сонцы загараецца, крыж на грудзёх мучанікам вісіць. Ён выходзіць з „царскіх варот", эвангельлем перажагнае і лагодна кажа:

— Ад апостала Паўла чценьне.

Слухаюць парафіяне, жагнаюцца, на калені падаюць, чалом просяць літасьці і збаўленьня. Славянскія сказы нельга зразумець, нельга паставіць у лёгічным парадку, іх толькі можна адчуваць нутром разам з елейнай мэлёдыяй айца. Старонкамі і раьздзеламі, чароўным сугуччам—„азм", „есм", „зело", зацьвілым гіпнозам архаізмаў камяніць айцец твары авечак паствы сваёй.

Пасьля чытанкі поп хітра жонглірue цытатамі з эвангельля, увязвае „прароцтвы" сьвятых апосталаў з бурным сёньнешнім днём, у прыватнасьці з колектывізацыяй сельскае гаспадаркі. Ніводнае прароцтва не прападае дарма. Кожнае божае слова спраўджваецца.

Пракокі пісалі, што на зямлю зыйдзе антыхрыст. Вось ён прыйшоў з зоркаю са зброяй-страшыдлам у руках. Руйнуе зямлю дракон, прыгнятае працавітых людзей, прымушае распісвацца на продаж душы ў пекла, зганяе сялян у адно месца, каб зручней было смактаць кроў. Веруючыя павінны ўспомніць першыя гады хрысьціянства. Павінны не паддавацца змусу антыхрыста. Будуць ахвяры, будзе чалавечая кроў. Кроў ачышчае душу. Ня трэба пужацца крыві. Змагацца, змагацца, змагацца. За царкву, за рэлігію, за паратунак душы!

Натоўп набухае атрутаю пропаведзі. Лысіны ашчаціньваюцца жаданьнем помсты. Хусьцінкі зацьвітаюць сьвякровінай злосьцю. Мацерныя словы ляцяць у вокны. Узрывае натоўп. Выбух страшэнны, дзікунскі. Выбух злосьці, што хавалася ў глыбі сэрца.

— Дакуль-жа, дакуль-жа, паганцы?
— Ламаць райвыканком!
— Душыць антыхрыста!
— Крышыць райком партыі!

Загойдаўся божы дом ад бунту чалавечага мяса. Зазьвінела шкло ў дзьверах. Натоўп злосны, з грукатам бруднай лаянкі рушыўся на шырокую местачковую вуліцу. Нехта пырснуў крывёю:

— Райком... парцейцы... комуні-сты...



— Дакуль-жа, дакуль-жа, паганцы!

## ЭПІЛЁГ

Канчатак сьмешны і сымболічны:

...„И помню, мне порою казалось на редкость заманчивым быть мужиком. Когда, бывало, едешь солнечным утром по деревне, все думаешь о том, как хорошо косить, молотить, спать на гумне в ометах, а в праздник встать вместе с солнцем, под густой и музыкальный благовест из села, умыться около бочки и надеть чистую замашную рубаху, такие-же портки и несокрушимые сапоги с подковами. Если-же, думалось, к этому прибавить здоровую и красивую жену в праздничном уборе, да поездку к обедне, а потом обед у бородатого тестя,— обед с горячей бараниной на деревянных тарелках и с ситником, с сотовым мёдом и брагой,—так большего и желать невозможно".

Правільна, эмігрант Бунін, сын „истинно русского духа": „большего и желать невозможно". Прыгожа і люба жыць мужыком. Вязеш, напрыклад, жыта з поля і думаеш: беднасьць-ліхалецьце цябе косіць, і пан мадоціць, і стражнік паганяе, і сьпіш у падасеці ў дыме і брудзе; расою і потам мыешся; сарочку носіш, пакуль не распадаецца на плячох; на лапці

сыр-бор перапляцеш. Жонку маеш і сямёра дзяцей у пасаг; растуць яны, як грыбы, бацьку няшчасьце ,і цару салдаты, матцы сьлёзы і пану наймiткі. Зьезьдзіш да цесьця—і цесьць на тым месцы,—ні бараніны, ні кісялю, ні лусты хлеба, ні лыжкі кулагі. Ну, затое, брагай перапоўнены берагі: пі мужык, весяліся, долю кручыну тапі ў карчме! Люба быць мужыком, лепшага і жадаць немагчыма! Толькі вось, пан Бунін, ня хоча селянін быць мужыком. Узбунтаваўся мужык. Ня той мужык, што крыкнуў у царкве: „дакуль-жа, дакуль-жа, паганцы?" — (ён таксама бунтуе, але бунт яго супроць бунту),—зусім ня той, аб якім гутарка будзе асобна, на гэтага мужыка большасьць мужыкоў наступае, мы думаем расказаць аб незаможніку-галацьбіту, дый аб тым, што зводзіць „канцы з канцамі".

Ну, калі здарыўся выпадак ужо такі, возьмем гэты-ж самы Тураўскі раён. Паляшука з пушчаў і балот возьмем, пан Бунін, і падпанкі бунінцы, таго-ж самага паляшука, якога героі вашы называлі „картошкаю-драбнухаю". Пацягнуўся паляшук у колгас. Сваю ўласную, потам і крывёю набытую, сіўкубурку ў абагулены фонд перадае. Паляшук лезе на родную, прадзедам пабудаваную хату, разбурае комін, скідвае на зямлю вільчык, асьцярожна раскладвае бярвеньні, а потым будуе з дзесяткаў старасьвецкіх хат адно абагуленае гумно. Паляшук ня хоча быць „картошкаю-драбнухаю".

Селянін абвясьціў бязьлітасную і жорсткую вайну мужыку. Паміраюць межы, памірае мужык—слова фэўдальнае, у церамох-камяніцах народжанае,—самі сяляне капаюць мужыку магілку.

У абшарах журавінавых і барох сасновых, што ні дзень, што ні ноч асілкі-колгасы вырастаюць. Цяпер-жа, не адкладваючы, у сьцюжу-завіруху колгасьнікі абыходзяць межы, у мёрзлую зямлю слупы закапваюць. Будуюць аборы агульныя, хаты жалезам крытыя, лазьні на манер гарадзкіх. З трох уласных робяць адзін агульны плуг; з соцень гаспадарчых клецяў вязуць насеньне на колектыўную базу. Тарарахаюць трыеры, лапочуць „трыумфы" — колгасы рыхтуюцца да агульнай сяўбы на агульным полі. Увесь раён пераходзіць пад суцэльную колектывізацыю. Ня было гэтага ў плянах адпаведных організацый. Міжвольна зьдзіўляешся тэй потэнцыяльнай энэргіі, што хаваецца ў сасновым бары.



— Ну, а цяпер накручвай „Ад веку мы спалі"...

Вось і Тураў абвясьціў сябе „цалкам і поўнасьцю" колектывізаваным. Волат-гігант тутэйшыя працаўнікі мяркуюць пабудаваць у сталіцы раёну. Завод па апрацоўцы сельска-гасп. сыравіны мараць адчыніць. Які завод—няважна, яшчэ гэтага пакуль што ніхто ня ведае, але завод абавязкова будзе. Інакш нельга. У шэрагу падсобных прадпрыемстваў рыхтуюцца з вясны пачаць работу. Вольныя рукі знойдуць сабе скарыстаньне; сваяасаблівы местачковы сум растае ў бурных тэмпах.

З прычыны гістарычнай перамогі організатары колгасу мітынг наладзілі на плошчы. Каля дзьвюх тысяч чалавек сабралося. На трыбуну адзін за адным усходзілі прамоўцы. У кожнага з іх адна асноўная думка: працоўныя мястэчка—беларусы, яўрэі, палякі—злучыліся ў адну сям'ю, каб будаваць буйную, плянавую індустрыяльную гаспадарку. Працоўныя аб'ядналіся, знайшлі агульную мову, і яны пабудуюць соцыялізм. Вораг пераможаны, ад яго адабрна цяжкая артылерыя,—стрэлы з старасьвецкага луку ня страшны. Але трэба і лук адабраць, бо і стрэлы могуць параніць чалавека,—на канцы яны маюць атруту.

З завулку пачуўся гоман і тупат. Адтуль гурбою беглі людзі. Рыжы мужчына, з барадою памялом крычаў асіпла і злосна: „Дакуль-жа, дакуль-жа, паганцы?" Старая бабуля кудахтала: „Сыра вас... радзімець"... і грызла мітынг ачахлымі вачыма. Разьюшаныя парафіяне спыніліся за некалькі крокаў ад колгасьнікаў. Яны лаяліся, пагражалі кулакамі, білі сабе ў грудзі. А на трыбуне прамоўца калаціў над галавой шапкай: „Кулаччо... Зьвярына тураўская... Зачыніць царкву, разагнаць гняздо!.. Гудзеў народ. І ліра захлёбвалася ў „лявонісе". Малады хлапчына раіў лірніку:

—Ну, а цяпер накручвай „Ад веку мы спалі"...

І зараз-жа дадаў:

— У нас ня будзеш жабрачыць... работа знойдзецца...

Лірнік расьцьвітаў радаснай ухмылкай і ў хаосе гукаў шукаў мэлёдыю беларускай марсэльезы.

# У ДОНБАСКІХ КАПАЛЬНЯХ



Рабочы каля ўрубавае машыны.

# МОБІЛІЗУЕМ ЭКРАН

## (Да 5-годзьдзя „Белдзяржкіно)

### „З усіх мастацтваў, самае важнае для нас кіно“

Так казаў тав. Ленін.

І гэта зусім зразумела. Кіно зьяўляецца магутнейшай зброяй у справе арганізацыі мас у змаганьні за ажыцьцяўленьне задач, пастаўленых перад краінай комуністычнай партыяй.

У нашы дні, калі краіна перабудоўваецца, калі так шырока разгортваецца соцыялістычнае будаўніцтва, калі краіна як полымем ахоплена соцыялістычнай рэконструкцыяй вёскі, калі гуртуем сілы каб зьнішчыць кулацтва, як клясу, мастацтва абавязана адыграць гістарычную ролю.

Асабліва ў сучасны момант актуальнай задачай зьяўляецца ў яснай, простай і мастацкай форме азнаёміць шырокія масы з сутнасьцю пяцігодкі. Але кіно можа ня толькі азнаёміць з асноўнымі проблемамі пяцігодкі, а яскрава і вобразна паказаць дасягненьні, якія здабыты ўпартай, бесьперапыннай працай.

У далёкую, закінутую ад гарадоў і цэнтру вёску—кіно мусіць несьці пропаганду хутчэйшага ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну, колектывізацыі сельскай гаспадаркі, пераканаць, давесьці мажлівасьць соцыялістычнай перабудовы нашай краіны—з краіны аграрна-індустрыяльнай у краіну індустрыяльна-аграрную.

І яшчэ адну вялікую задачу мусіць адыграць кіно ў пэрыод перабудовы нашага ладу. Соцыялістычнае будаўніцтва яшчэ шпарчэй будзе разгортвацца пры разгортваньні і росьце пролетарскай культуры. А ў нас ёсьць яшчэ чорная спадчына мінулага, гэта вялікі лік няпісьменных. Кніга і газэта для гэтае масы не даступна. На дапамогу мусіць прыйсьці кіно.

Калі мы ставім сабе задачу дагнаць і перагнаць капіталістычны захад—для гэтага патрэбна вялікая культурнасьць мас.—„З няпісьменнасьцю,—казаў у 1921 годзе на зьезьдзе політасьветаў Ленін,—павінны змагацца, але адна пісьменнасьць недастаткова, а патрэбна культура, якая вучыць змагацца“.

Вось чаму пытаньням кіно надаецца вялізарнае значэньне. Дзякуючы гэтаму мы абавязаны асабліва ўважліва аднесьціся да працы Белдзяржкіно.

Пяцігадовае існаваньне Белдзяржкіно зьяўляецца буйнейшым фактарам росту Беларускай Пролетарскай Культуры.

Ні на хвіліну не забываючыся аб гэтым, мы павінны **пад знакам агляду** правесьці пяцігадовы юбілей Белдзяржкіно.

Усю дзейнасьць, шлях пройдзены за 5 гадоў, усю продукцыю—на агляд пролетарскай грамадзкасьці.

У часе організацыі (1925) Белдзяржкіно атрымала ў спадчыну, як „базу“, на якой трэба было расьці—„Любовь чемпиона, или таинственный выстрел“, некалькі яшчэ падобных гэтаму фільмаў, дый адзін-два абсолютна нікуды нягодных для культурнага абслугоўваньня гледача—кіно-будынкаў. Экран быў забруджаны замежнай „халтурай“, якую ўпарта даводзілася гнаць, каб забясьпечыць пачэснае месца здароваму, патрэбнаму нам, савецкаму фільму.

Але гэта ў гарадох.

Вёска і ня ведала, што такое кіно, што гэта „жывыя карціны“. Напружанай працай, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, разгарнулі, і зараз асабліва багата разгортваецца, па ўсёй краіне сетка кіно-перасовак і стацыянарак.

Справе кіно-разьвіцьця дадзены вялікі размах, прыцягнута шырокая пролетарская грамадзкасьць. Рабочыя кіно-конфэрэнцыі, мастацкія саветы пры кіно-тэатрах, што складаюцца галоўным чынам з рабочых фабрык і заводаў, спэцыяльнае абслугоўваньне чырвонаармейцаў, студэнтва, дзіцячыя кіно-тэатры—усё гэта паказвае на шчыльную сувязь БДК з савецкай грамадзкасьцю. Будуюцца па Беларусі новыя кіно-тэатры, на парадку дня—організацыя ўзорных комсамольскіх кіно-тэатраў, організацыя гледача.

Але Белдзяржкіно мае ў сваім активе і звыш дзесятка мастацкіх карцін уласнае вытворчасьці.

На першых кроках вытворчай дзейнасьці былі і нелады. Выпускаемая кіно-продукцыя, ня ішла ў нагу з жыцьцём—але неўзабаве шлях быў выпраўлены.

У даны момант вытворчасьць БДК не адстае ад жыцьця, упарта змагаецца за перабудову краіны, абязбройвае клясавага ворага, змагаецца за соцыялізм. Калі пачалі ўсплываць наверх тэндэнцыі-спробы даказаць, што Беларусь Савецкую стварылі не працоўныя Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б разам з працоўнымі Савецкага Саюзу, а „іншая сіла“—Белдзяржкіно мастацкі ўдалай карцінай „Волат“ нашчэнт разьбіла ўсе праявы, настроі і тэндэнцыі нацыянал-дэмакратаў, паказваючы іх сапраўдны політычны твар.

Артысты Барыс Азараў у карціне „Волат“.




**ВОЛАТ—новы фільм вытворчасьці Белдзяржкіно, у хуткім часе зьявіцца на экранах Беларусі і СССР. Сцэнар.-консультант—А. Вольны. Рэжыс.—У. Корш. Апэратар — Джлюглейт. У галоўных ролях: Ганна Загжыцкая, Мікола Вітоўтаў, Барыс Азараў, Васіль Чудакоў, Барыс Феадосьеў.**

Продукцыя БДК характарызуецца галоўным чынам тэматыкай, якая адбівае героіку змаганьня Чырвонай арміі, партызанаў з інтэрвэнцыяй і окупантамі—змаганьне за Савецкую Беларусь („Лясная Быль", „Хвоі гамоняць"). Былі спробы даць фільмы на гістарычныя тэмы („Кастусь Каліноўскі", „Гірш Лекерт"), але прызнаць іх удалымі нельга.

Вытворчасьцю, якая адбівае нацыянальна-вызваленчае змаганьне працоўнай моладзі ў Заходняй Беларусі („Да заўтра"), жыцьцё, быт, ініцыятыву, працу і энтузіазм моладзі Савецкай Беларусі („Песьня вясны")—бясспрэчна сьветлыя бакі дзейнасьці БДК.

Пяцігадовы юбілей кіно-справы ў Беларусі адбываецца ў **этапе пераключэньня на новыя рэйкі** ўсёй дзейнасьці Белдзяржкіно. Новы тэматычны плян павінен быць выключна падпарадкаваны социялістычнаму будаўніцтву, павінен быць высокай ідэолёгічнай і мастацкай якасьці і павінен быць зьдзейсьнены як найбліжэй.

Мобілізаваць сілы, падрыхтаваць кадры, перайсьці ў вытворчасьці на мэтоды комуністычнае працы, паскорыць тэмпы, разгарнуць будаўніцтва кіно-фабрыкі—баявая задача пролетарскай кінорганізацыі.

**АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# ЗА ДВА ТЫДНІ

Імпэрыялістычная балбатня пра „справядлівасьць", пра „вечны мір", пра „разбраеньне" працягваецца і на гэты дзень, толькі сёньня зьмянілася ўзьнешняя абстаноўка ды выйшлі з дзейства некаторыя пэрсонажы — прадстаўнікі перамоканай Нямеччыны і іншых дробных дзяржаў, патрэба ў якіх для вялізных імпэрыялістычных драпежнікаў на некаторы час адпала.

З цікай Гаагі, дзе быў прыняты плян занявольваньня Нямеччыны—плян Юнга, прадстаўнікі „вялікіх" дзяржаў перабраліся ў шумлівы Лёндон. Новая балбатня тут афіцыйна мае назву другой морскай конфэрэнцыі па разбраеньню. За сталом—прадстаўнікі ПАЗШ, Англіі, Японіі, Францыі, Італіі.

Для таго, каб разважаць аб пэрспэктывах урачыста адчыненай 21-га студзеня ангельскім каралём конфэрэнцыі, будзе досыць цікава, хоць-бы мяльком перагартаць старонкі гісторыі, на якіх запісаны справы першай морскай конфэрэнцыі па разбраеньню. Гэта конфэрэнцыя, якая была склікана па ініцыятыве ПАЗШ у 1921—1922 г., прынесла рашучую перамогу заатлянтыцкай рэспубліцы. На гэтай конфэрэнцыі, пагражаючы пабудовай вялізнага флёту, ПАЗШ прымусілі Англію адмовіцца ад свайго пяршынства па моры, прынамсі ў частцы, што датычыцца да лінейнага флёту, і здолелі разарваць саюз двох вялізьнейшых морскіх краін—Англіі з Японіяй.

Але змоўклі ўрачыстыя прамовы „пра мір", „пра разбраеньне". Надышла штодзеншчына. І штодзеншчына прынесла зусім іншую рэчаіснасьць, — *замест разбраеньня морскія дзяржавы пачалі ліхаманкава будаваць новыя морскія злавесныя пачвары і, працягваючы, моцна крычаць пра мір, у той-жа час энэргічна рыхтаваліся да новай вайны.*

Чаго варты ў рэчаіснасьці гэтыя міралюбівыя гутаркі, паказвае прамова прэзыдэнта ПАЗШ, Гербэрта Гувэра, якая была выказана ў канцы леташняга году. Прэзыдэнт, зразумела, гаварыў пра мір, ён толькі клапаціўся пра чалавечы лёс, ён даводзіў, што ў часе ўзьнікненьня новай вайны распаўсюджваць блёкаду на нэйтральныя краіны злачынна, бо блёкада цягне за сабою голад для ні ў чым нявінных жанчын, старых і дзяцей.

Уся гэта прамова, з надворнага выгляду прасякнутая шчырай любоўю да чалавецтва, імкнулася, аднак, да выключна прозаічных мэт. Гувэр, стаўленьнік амэрыканскіх капіталістых, меў на ўвазе палітыку пашырэньня збыту амэрыканскіх тавараў у мірны і ваенны час, а для гэтага трэба было прымусіць Англію—„уладарку мораў", адмовіцца ад яе асноўнага мэтоду вядзеньня вайны—блёкады. Інакш кажучы, ПАЗШ упарта дамагаюцца ўстанаўленьня прынцыпу „свабоды мораў", што цалкам адпавядае інтарэсам амэрыканскіх прамыслоўцаў і банкіраў.

Для Англіі было-б паўбяды, калі-б ПАЗШ займаліся толькі прапагандай поглядаў, што выказвае Гувэр; але справа ў тым, што амэрыканскія капіталістыя глядзяць на ўсё выключна з практычнага боку.

*На новую морскую конфэрэнцыю міністр замежных спраў ПАЗШ Стымсон зьявіўся з пэўнымі патрабаваньнямі, якія павінны зусім падарваць былую магутнасьць Англіі, як самай буйнай морскай дзяржавы ПАЗШ, патрабуюць для сябе пабудовы морскага ваеннага флёту, які быў-бы роўным па тоннажу ангельскаму.*

На Лёндонскай конфэрэнцыі справа не абмежавалася толькі прэтэнзіямі ПАЗШ. Свае рахункі прад'яўляюць друг другу ўсе партнэры Стымсона — прадстаўнікі Англіі, Францыі, Італіі і Японіі. Францыя, напрыклад, ня маючы магчымасьці пабудаваць морскі флёт роўны ангельскаму, улічваючы практыку Нямеччыны ў мінулай імпэрыялістычнай вайне, узмоцнена будуе падводныя чоўны, разьлічваючы гэтым, у часе вайны з Англіяй, блёкаваць сваю сучасную „прыяцельніцу". Іменна па гэтай прычыне Англія настойліва дамагаецца скарачэньня падводнага флёту Францыі. Некалькі слоў пра Італію. Яна ня можа дагнаць Францыю ў справе морскага ўзбраеньня. Пагэтаму яна патрабуе, каб былі вызначаны пэўныя суадносіны морскіх сіл з Францыяй. Але, прынамсі, Італія мае і іншы „арыгінальны" плян. Яна найбольш слабая на моры імпэрыялістычная дзяржава, робячы пацыфістычны гэст, заяўляе, што яна гатова абязброіць свой флёт.

Сэнс гэтае прапановы—паслабіць сілы сваіх будучых супраціўнікаў.

У абставінах узаемнай варожасьці і жорсткіх супярэчнасьцяй адкрылася Лёндонская морская конфэрэнцыя, якая зусім справядліва ацэньваецца працоўнымі ўсяго сьвету і рабочымі Савецкага Саюзу, *як конфэрэнцыя далейшага ўзбраеньня і падрыхтоўкі новых імпэрыялістычных войн.*

Правільнасьць гэтай ацэнкі падцьвердзілі першыя дні работы конфэрэнцыі. Адразу-ж паміж дзяржавамі ўзьніклі буйнейшыя разнагалосьсі. Справа дайшла да таго, што ўдзельнікі конфэрэнцыі прымушаны былі аб'явіць корэспондэнтам буржуазных газэт і часопісаў, што яны ня могуць заставацца ў залі паседжаньняў, бо пытаньне будзе разглядацца пры зачыненых дзьвярох. Але патрэбна неяк вытлумачыць гэты крок. І растлумачэньні былі даны, але вельмі нязграбныя. Макдональд, напрыклад, наогул адмаўляе тое, што адбываліся сакрэтныя паседжаньні, а Стымсон, тонам, які не дапушчае сумненьня, прызнаючы факт закрытых паседжаньняў, вытлумачвае гэта тым, што памяшканьне, дзе адбываецца конфэрэнцыя, настолькі замала, што корэспондэнтаў ня было куды зьмясьціць.

У той час, як пішуцца гэтыя радкі, атрымана паведамленьне пра тое, што зараз павінна адбыцца паседжаньне конфэрэнцыі, на якое будзе дапушчана група абраных корэспондэнтаў. Гэтае паседжаньне разьлічана выключна на „супакойваньне думак", на дэмонстрацыю таго, што ўсё, маўляў, абстаіць добра.

Але ці добра? *На конфэрэнцыю прадстаўнікі кожнай імпэрыялістычнай краіны зьявіліся з такім вялікім багажом непрымірымых супярэчнасьцяй, што гаварыць пра якое-небудзь сапраўднае ўзгадненьне, зразумела, зусім нельга.* Гэта вымушаны прызнаць, нават, буржуазныя газэты, якія ніяк нельга папікнуць у недастачы „оптымізму" і павагі да гэтай конфэрэнцыі.

Але... балбатня „пра мір", пра „разбраеньне" ўзмоцнена працягваецца. Становішча абавязвае—працоўныя масы капіталістычных краін сур'ёзна патрабуюць спыненьня ўсякіх войн, і каб захаваць іх падрыхтоўку, драпежнікам даводзіцца заўсёды гаварыць пра мір...

* * *

У кіраўнікоў імпэрыялістычных краін досыць шмат розных клопатаў. Ва ўсіх капіталістычных краінах расьце гаспадарчы крызіс, змаганьне за рынкі збыту становіцца ўсё больш гострым, рабочая кляса хутка лявее. Да таго-ж шпаркі рост экономічнай магутнасьці СССР, пасьпяховае выкананьне пяцігодкі не даюць спакою імпэрыялістым.

Прымушаны весьці гандаль з Савецкім Саюзам, капіталістычны савет адначасна ўзмоцнена працягвае падрыхтоўку ваеннага паходу супроць краіны, што будуе соцыялізм. Вось чаму ў апошні час, у парадку падрыхтоўкі, ва ўсіх капіталістычных краінах разгарнулася інтэнсыўнейшая антысавецкая кампанія. У гэту кампанію ўцягнуты ўвесь чыста буржуазны апарат, парляманты, прадажны друк, соцыял-фашыстыя, духавенства. Застанавіўся адзіны антысавецкі фронт ад самых ад'яўленых рэакцыянэраў да соцыялдэмократаў уключна. І для цкаваньня СССР усе яны ня спыняюцца ні перад якой выдумкай, як-бы глупа яна ня была.

Адначасна, як мага, буржуазія пераходзіць да простых шкодніцкіх дзеяньняў у адносіне да СССР. Працоўным усяго сьвету добра памяцен конфлікт на КВЖД, што быў спровацыраваны імпэрыялістымі. Да новых шкодніцкіх дзеяньняў трэба аднесьці зьдзейсьненае цяпер, па загаду ўраду ПАЗШ, разарваньне адносін паміж Мэксікай і СССР. Да шкодніцкіх дзеяньняў трэба аднесьці і таксама напад белагвардзейцаў на кіраўніцтва КВЖД у Харбіне, які адбыўся 27 студзеня. Цяжка сабе ўявіць, каб атрад у шэсьцьсот белагвардзейцаў, сярод белага дня, адважыўся адкрыта выступіць супроць савецкіх прадстаўнікоў, ня будучы ўпэўненым, што гэты нахабны напад пройдзе бяскарна. Між іншым, бандыты прагаварыліся. Яны самі сказалі, што на іх з надзеяй „паўзіраюць замежныя дзяржавы"...

Савецкая грамадзкасьць павінна на падставе гэтых фактаў узмацніць сваю чуйнасьць, бо не выключаецца магчымасьць новых варожых выпадаў супроць СССР.

* * *

Буржуазія ліхаманкава рыхтуецца да адкрытага нападу на СССР. Але ў будучай вайне імпэрыялістым прыдзецца мець справу ня толькі з добра падрыхтаванымі да адпору рабочымі і сялянамі Савецкага Саюза, але і з „ўласнымі" пролетарамі. Аб гэтым сьведчыць нябывалы ўздым рэволюцыйнага руху ва ўсіх капіталістычных краінах і бязупынны рост уплыву комуністычных партыяй на пролетарыят. Аб гэтым таксама сьведчыць і тая „спроба сіл", якая адбылася ў ленінскія дні за мяжой. Мінулыя два тыдні прышліся на гадавіну сьмерці правадыра сусьветнага пролетарыяту—У. І. Леніна. Гэта гадавіна ператварылася ў яскравую дэмонстрацыю солідарнасьці замежных рабочых з працоўнымі Савецкага Саюзу.

Ня глядзячы на забарону ўсялякіх выступленьняў, ня глядзячы на жорсткія поліцэйскія рэпрэсіі і расстрэлы дэмонстрацый, рабочыя ўсяго сьвету ў ленінскія дні вышлі на вуліцу.

Рабочая кляса ў гэтыя дні рашуча заявіла пра сваю гатоўнасьць абараняць краіну Кастрычніка, прыпомніла буржуазіі пра тое, што насоўваюцца вырашаючыя клясавыя бойкі.

# ПА КРАІНЕ САВЕТАЎ



У справе экспорту ў замежжа продуктаў сьвінагадоўлі, вялізарную ролю адыгрывае бэконізацыя. Н а з д ы м к у: адзін з новапабудаваных на Украіне бэконных заводаў.



Апошнія месяцы шэраг польскіх газэт вёў шалёную кампанію супроць нашых савецкіх устаноў у Польшчы. Н а з д ы м к у: паўнамоцны прадстаўнік СССР у Польшчы т. У. А. Антонаў-Аўсеенка.



У сувязі з разьвіцьцём у Закаўкаскіх рэспубліках шаўкоўніцтва, вялікае значэньне набывае пытаньне разьвядзеньня ў СССР шаўковае грэны.



Яўрэйскі колгас „Найе Лэбн" („Новае жыцьцё) у Крупскім раёне ўзьняў пытаньне аб пашырэньні колгасы за кошт навакольных хутаркоў. У колгасе адбыўся сход навакольных сялян, на якім было высьветлена пытаньне аб вялізарным значэньні гэтае справы, прычым цэлы шэраг сялян тут-жа падаў заяву аб уваходзе ў колгас. Такім чынам, колгас „Новае жыцьцё" робіцца інтэрнацыянальным колгасам.

Н а з д ы м к у: селянін Альхімовіч падпісвае заяву аб уваходзе ў колгас.



Між Савецкім Саюзам і Турцыяй існуюць адносіны шчырае прыязьні і ўзаемнага давер'я. Гэта, між іншым, знайшло сваё выражэньне ў падпісаньні пратаколу пра аднаўленьне і пашырэньне Парыскага пакту 1925 году, якое адбылося 17 сьнежня 1929 году ў г. Ангоры.

14 студзеня г.г. у Маскве адкрылася савецка-турэцкая конфэрэнцыя па перагляду гандлёвае ўмовы, падпісанае 11 сакавіка 1927 году. Конфэрэнцыя павінна даць значныя вынікі ў справе далейшага разьвіцьця экономічных адносін між СССР і Турцыяй. Н а з д ы м к у: справа налева: сакратар турэцкага пасольства ў СССР п. Аўман-Тахір-Бэй; турэцкі пасол у СССР п. Рагіб-Бэй; райца турэцкага пасольства ў СССР п. Агіх-Бэй; загадчык п/аддз. гандлёвае палітыкі НКЗС т. Розэнблюм; загадчык аддзелу Блізкага Ўсходу НКЗС т. Пастухоў; нам. наркома замежных спраў т. Карахан і прадстаўнік Наркамгандлю т. Каўфман.



У м. Крупкі скончылі зімнія курсы па падрыхтоўцы піонэрважатых пры райкоме ЛКСМБ.






У Маскве адбылася першая ўсесаюзная конфэрэнцыя радыёстанцый. Пасяджэньні конфэрэнцыі адбываліся ў Цэнтральным клюбе Працаўнікоў Сувязі. Н а з д ы м к у з ь в е р х у: агульны від конфэрэнцыі. Н а з д ы м к у з ь н і з у: інжынэры радыё-спэцыялістыя слухаюць даклад Намесьніка Народнага Камісара Пошты і Тэлеграфу т. Любовіча.



Па ўсім Саюзе разгортваецца кампанія па здачы каштоўнасьцяй у фонд індустрыялізацыі. Прадстаўнікі менскага чыгуначнага п./т. аддзяленьня таксама п, нялі ўдзел у гэтай кампаніі. Н а з д ы м к у: т. Жукаў першы паказаў прыклад і здаў Рабачкому ў фонд індустрыялізацыі шэраг залатых і срэбраных рэчаў.



Сувязь ва ўсходніх рэспубліках Саюзу.
Н а з д ы м к у: Таджык кідае свой ліст у паштовую скрынку.

# ВУЛІЦА НОВАГА МЕНСКУ

Фото Ў. Семянякі



Рог Савецкае і Ленінскае.

най рукой Шкурава рэдактару насьценгазэты, таму самаму, што пішa пра Шкурава—Антону Багайскаму. Увесь час да сьмерці на Багайскім ляжыць ганебная пляма. Яму не даюць імя лепшага вытворца-рабочага толькі таму, што пушчана чутка, што ён „пад сьледзтвам“...

Так выжывалі чалавека, так марудна і ціха, няпрыкметна штурхалі яго да сьмяротнага дызэля.

... На гэты раз Вярхоўны Суд Рэспублікі засядае на сцэне клюба фабрыкі „Спартак“. У перапоўненай залі былога маёнтку міністра Крывашэйна, дзе зараз знаходзіцца рабочы клюб, сабралася свая, цесна зьлітаваная рабочая сям'я, яна ўважліва сочыць за паказаньнямі абвінавачанага і разам з судом распутвае сеці, сплеценыя гэтым ворагам,—яна сустракае ўхмылкамі і сьмехам правал тэй рызыкоўнай гульні, якую вёў Шкураў.

Паступова высьвятліўся яго сапраўдны соцыяльны твар. Перад намі ўжо ня Шкураў,—хворы, прыгнечаны, якім ён імкнуўся сябе прадставіць, а Шкураў сапраўдны клясавы вораг, адзін з галоўных вінавайцаў трагічнай і жудаснай сьмерці рэдактара насьценнай газэты „Спартакавец“.

...Шкуроўшчына асуджана. Шкуроўшчына—гэта змаганьне паміраючай клясы, агентам якой зьяўляецца Шкураў. Ен атрымаў 6 год суровага пакараньня ў концэнтрацыйным лягеры. Грамадзкія організацыі выправілі сваю нячуласьць, яны атрымалі добрую навуку з усёй гэтай справы. Учынак Багайскага рабочая маса асудзіла. Яна адказала на вылазку клясавага ворага—Шкурава, давёўшага да гэтага Багайскага, перавышэньнем вытворчага пляну і зьніжэньнем прагулаў, яна ўтрая павялічыла нагрузку на папяровых машынах, чаго нават баяліся зрабіць некаторыя інжынэры

## НА ШВЭЙНАЙ ФАБРЫЦЫ

Фото Мазэлева



Ф-ка „Кастрычнік“ (Менск). Пашыўны цэх.

Фото П. Салавейчыка



Завод „Энэргія“—Менск.

# ПА ШЛЯХУ КОМУНІЗМУ

Нарыс Р. ЛАДНАГА

## На старых руінах

20-га лютага 1919 году на закінутай пустцы, у старой паломанай кузьні, адбылося ўрачыстае адчыненьне заводу „Энэргія“. З вясёлай песьняю, з бадзёрасьцю і верай у добрую будучыню ўзяліся за працу 50 рабочых. На чатырох, з трудом здабытых варштатах, рабочыя выраблялі бляшаныя ложкі і ладзілі плугі.

Надышоў 1922 год.

Спустошаная, параненая, абрабаваная Беларусь загойвала свае раны, аднаўляла зруйнаваную гаспадарку. На пустцы вырас новы будынак. Завод „Энэргія“ перабраўся ў новы будынак. Весялей застукалі малаткі, зазьвінелі пілы. Больш моцна і бадзёра ліліся песьні рабочых. Завод ужо выробляў і ладзіў вагі, саломарэзкі, малатарні.

Час імчаўся шпарка...

Студзень 1930 году.

Вялікая пустка забудавана. Шырока раскінуліся па ёй вялікія цэхі: мэталёвы, вагавы, сьлясарны, такарны, катлярны, штампавальны, зборачны, кавальскі, модэльны. Завод жыве, дыша. Яму цесна на былой пустцы. Вялікі двор заводу закіданы машынамі, варштатамі, катламі.

Напружана кіпіць праца. У тры зьмены занята на вытворчасьці 900 рабочых. Завод выробляе машыны і варштаты. За год ён павінен вырабіцьна 3.700.000 рублёў прыладаў вытворчасьці.

— Мы павінны і мы гэта выканаем,—аднагалосна заявілі рабочыя пры падпісаньні соцыялістычнай умовы з заводам „Комунар“.

Шмат працы будзе ў гэтым годзе рабочым заводу. Програма ўмовы вялікая і важная.

— Нам праца ня страшна, не маленькія. Што-б ня было, а сваё выканаем.

І выканаюць. Гэта адчуваецца па тэмпу іх работы, па актыўнаму ўдзелу кожнага ў соцспаборніцтве.

Напружана б'ецца пульс работ у цэхах.

Сьпяшаецца час. Ён баіцца адстаць ад тэмпу індустрыялізацыі.

35 гадоў працуе токарам Янушкевіч. Ён добра помніць былыя часы.

— Ды што пра іх успамінаць,—кажа ён,—мінулае ня цікава. Тады толькі і думаў, чым-бы пракарміцца і як-бы адпомсьціць эксплёатутару-гаспадару. Цяпер ня тое. Мы самі гаспадары. Кожны глыбока зацікаўлены ў працы і жыцьці свайго заводу.

Янушкевіч мае дзьве каштоўныя вынаходкі. Ён вынайшоў варштат па апрацоўцы конічнай зубчаткі і новы спосаб па абточцы канцоў валікаў. Гэтыя вынаходкі павялічваюць вытворчасьць на 300 процантаў.

Майстар па зборцы такарных варштатаў—Паўловіч, ужо атрымаў з Ленінградзкага бюро вынаходніцтва патэнт на сваю вынаходку. Яго патрон для сьвярдленьня дзірак павялічвае хуткасьць працы на 500 процантаў.

— Гэта яшчэ нічога,—сьмяецца ён.—Мы яшчэ сябе пакажам. Спаборніцтва дык спаборніцтва! Яшчэ ня тое прыдумаем!

## Братаньне фабрыкі збожжа з фабрыкай мэталю

Мэталзаводу „Энэргія“.

*„Мы, сяляне былой вёскі Карзуны, Сьмілавіцкага раёну, Менскай акругі, у колькасьці 71 гаспадаркі на плошчы 700 гектараў зямлі організавалі колгас і далі яму назву „Імя заводу „Энэргія“.*

*Даючы гэту назву, мы мелі на ўвазе замацаваць сувязь паміж фабрыкай збожжа і фабрыкай мэталю, паміж горадам і вёскай.*

*Мы ўпэўнены, што нашы таварышы па працы—рабочыя, дапамогуць нам на новым соцыялістычным шляху“.*

Калгасу імя заводу „Энэргія“.

*„Рабочыя заводу „Энэргія“ констатуюць, што організацыя колгасу на плошчы 700 гэктараў ёсьць яшчэ адна заваёва Кастрычніка на фронце соцыялістычнай перабудовы народнай гаспадаркі.*

*Мы зробім усё магчымае, каб дапамагчы разьвіцьцю колгасу „імя заводу „Энэргія“.*

*Усю сваю энэргію мы аддамо на тое, каб забясьпечыць самую блізкую сувязь паміж фабрыкаю мэталю і фабрыкаю збожжа“.*

Вось два лісты. Два блізкія, сяброўскія лісты. Яны ясныя і простыя. Рабочыя ўжо стрымалі сваё слова: у колгас пасылаецца падарунак ад рабочых заводу „Энэргія“—новы трактар.

„Энэргія“ ўжо мае некалькі падшэфных колгасаў, організаваных пры непасрэдным удзеле рабочых. Брыгады працуюць шпарка і актыўна.

Сьпяшаецца час. Шпарка ляціць наперад. Яшчэ шпарчэй стукаюць варштаты і машыны.

Пяцігодка не чакае!

# Кніжная вітрына

**Ян. Скрыган—Затока ў бурах. БДзВ. Менск, 1929 г. 172 стар. Цана 1 р.**

Гэта першая кніжка апавяданьняў маладога беларускага прозаіка. Буйнейшым творам зборніку зьяўляецца аповесьць „Затока ў бурах". У ёй аўтар разгортвае перад чытачом жыцьцё салдаткі— Алесі, якая пасьля сьмерці мужа, забітага на




імпэрыялістычнай вайне, у часе рэволюцыі робіцца актыўнай работніцай.

Трэба аднатаваць, што фабула некаторых твораў у аўтара часта хібіць, зварачаючыся ў анэкдот, у эпізод, магчыма нязначны, каб быць стрыжанем апавяданьня. Аднак, непасрэднасьць, сваясаблівасьць сынтаксычнае пабудовы сказаў, багацьце формальных прыёмаў кажуць аб ім, як аб досыць моцным пісьменьніку.

Параўнальна шырокім зьяўляецца для першага зборніку і кола тэм аўтара.

**Д. Фурманаў. — Чырвоны дэсант (апавяданьне). БДзВ, Менск, 1929 г. 72 стар. Цана 20 кап.**

Сярод продукцыі нашага БДзВ параўнальна нядаўна пачалі зьяўляцца вайсковыя кніжкі. Да іх ліку трэба аднесьці і кніжку вядомага расійскага пролетарскага пісьменьніка Фурманава „Чырвоны дэсант".




У жніўні 1920 г., Урангель з Крыму перакінуў на Кубань некалькі тысяч свайго лепшага войска пад камандай Улагая. Урангель спадзяваўся падняць кулацкае казацтва супроць Савецкае Улады, скінуць яе і пачаць перавозку хлеба ў Крым праз мора. Для ліквідацыі арміі ген. Улагая быў пасланы яму ў тыл Чырвоны дэсант пад начальствам Коўцюха. Камісарам гэтага дэсанту быў прызначаны Фурманаў, які ў гэтай кніжцы дае яскравыя замалёўкі ліквідацыі белай банды. Напісаная проста, яна, бязумоўна, зацікавіць масавага чытача.

**В. Чудзінаў—Партызан Няпамятны. БДзВ, Менск, 1929 г. 40 стар. 20 кап.**

Партызанскі рух у Сібіры, барацьба партызан з японцамі, чэха-славакамі і белагвардзейцамі знаходзіць сваё адбіцьцё ў кніжцы Чудзінава.

Трэба аднатаваць, што да апошняга часу мы карыстаемся выключна перакладной вайсковай бэлетрыстыкай, да якой адносіцца і гэта кніжка.

Варта было-б выдаць асобнымі кніжачкамі творы беларускіх пісьменьнікаў на тэму аб грамадзянскай вайне, якія дагэтуль у большасьці раскіданы па нашых кругабежных выданьнях.

**Сянкевіч А.—Беларускі нацыянал-дэмократызм і барацьба з ім.** Выд. Комунівэрсытэту Беларусі імя Леніна. Менск, 1930 г. 26 стар. Цана 10 кап.

Аўтар ускрывае гістарычныя вытокі нацыянал дэмократызму, паказвае яго соцыяльную базу, затрымліваецца на конкрэтных праявах беларускага нац-дэмократызму. У канцы сваёй брошуры аўтар значную ўвагу зварочвае на лёгічную сувязь нац-дэмократызму з беларускім нацыянал-фашызмам у Заходняй Беларусі і польскай фашыстаўскай дыктатурай.

Знаёмства з кніжачкай бязумоўна неабходна кожнаму, хто хоча азнаёміцца з сутнасьцю беларускага нацыянал-дэмократызму і яго конкрэтнымі праявамі.

**Міх. Лабадаеў. — Бальшавіцкім тэмпам. БДзВ. Менск, 1930 г. 70 стар. Цана 20 кап.**

Засеўная кампанія сёлетняга году можа даць рашучую перамогу колгасам у СССР. Але для гэтага неабходна такі гаспадарчы ўздым, такі размах работы, як яшчэ ніколі. Сельска-гаспадарчая кампанія 1930 г. мае выключную важнасьць і значэньне для далейшага пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва краіны. У зьвязку з гэтым на комсамол ускладаюцца адказьнейшыя задачы.

Кніжка Лабадаева прысьвечана рабоце комсамолу ў веснавую с.-г. кампанію 1930г. „Працаваць бальшавіцкім тэмпам і ўмела арганізаваць справу", вось што павінен ведаць кожны комсамолец.

Выданая сваячасова кніжка прынясе значную карысьць ня толькі комсамольцу, але і кожнаму работніку засеўкампаніі.

**М. Мацісон—Рэволюцыйныя песьні вып. I. БДзВ. Менск, 1929 г. 11 стар. Цана 20 кап.**

У гэтым зборніку зьмешчаны наступныя творы для хораў: „Чырвонаармейцы" („Ціха-рэе, палымнее"—словы Ц. Гарт-




нага), „Песьні Ільліча" („Замучаны цяжкай нядоляй"), „Маладняк" („Сьмялей зару спаткаем") і „1-га мая" („Першага мая—сьвята вясны"). Зборнік выдадзены акуратна і можна спадзявацца, што хоць часткова задаволіць нашы хоры, якім так бракуе рэволюцыйных сьпеваў.

**Янка Маўр—Пекла (байка). БДзВ. Менск, 1929 г. 40 стар. Цана 40 кап.**




Антырэлігійная байка. Аўтар апавядае тут гісторыю двух піонэраў Янкі Пука і Юркі Шыша, якія па сваёй ахвоце трапілі ў пекла. Пасьля цэлага шэрагу прыгод яны ўзьнялі ў пекле бунт і вызвалілі ўсіх грэшнікаў.

# НАПЯРЭДАДНІ РАШУЧЫХ КЛЯСАВЫХ БОЕК

Палітычная атмосфэра ва ўсіх краінах капіталістычнага сьвету насычана хмарамі навальніцы.

Імпэрыялістыя ліхаманкава працягваюць узбраеньне, а разам з тым пашыраецца сусьветны гаспадарчы крызіс.

У выніку гэтага крызісу і капіталістычнай рацыяналізацыі, што робіцца з кожным днём больш жорсткай, расьце беспрацоўе, рэзка пагоршваецца матэрыяльны стан працоўных.

Рабочыя масы капіталістычных краін, што кіруюцца камуністычнымі партыямі, усё часьцей і часьцей выходзяць на вуліцу з патрабаваньнямі эканамічнага і палітычнага характару.

Аб гэтым палітычным змаганьні расказваюць паданыя тут здымкі.







* * *

У змаганьні з рабочымі буржуазія лічыць, што ўсе сродкі добра дзейнічаюць.

Домаўласьнікі ў горадзе Марсэлі (портавы горад ва Францыі), ня лічачыся з цяжкім становішчам беспрацоўных, дамагліся ад буржуазнага суду пастановы аб высяленьні 108 рабочых сем'яў з кватэр.

Беспрацоўныя, ня маючы дзе падзецца, адмовіліся выканаць патрабаваньне домаўласьнікаў; яны аказалі супраціўленьне паліцыі, якая атрымала загад выгнаць беспрацоўных з тых памяшканьняў, што яны займаюць. Зьлева на верхнім малюнку відаць паліцэйскіх ля мізэрных домікаў, з якіх выселены рабочыя.

* * *

Нямецкія беспрацоўныя, ня гледзячы на жорсткія паліцэйскія рэпрэсіі, увесь час выходзяць на вуліцу, прад'яўляюць свае патрабаваньні буржуазіі.

Зьлева на ніжнім малюнку дэманстрацыя беспрацоўных у Бэрліне. На сьцягу надпіс: „Мы патрабуем работы і хлеба".

* * *

Працягваючы ўзбраеньне, буржуазія ва ўвесь голас крычыць пра свае імкненьні да „міру".

На верхнім малюнку з правага боку можна бачыць палац у Лёндоне, дзе робіць свае паседжаньне чарговая „мірная" конфэрэнцыя—морская конфэрэнцыя па разбраеньню. Зразумела, гэту конфэрэнцыю чакае лёс папярэдніх... Мал. другі зьлева сьведчыць аб тым, які сапраўдны кошт усім „міратворчым" размовам імпэрыялістых. Амэрыка спусьціла на ваду вялізарны падводны човен „В 5". Гэта завецца „разброяцца".

* * *




Генэрал Вейган (мал. трэці зьлева) зьлейшы вораг рабочых і сялян СССР, прызначаны ўрадам Тардзе за начальніка генэральнага штабу францускай арміі.

Гэта назначэньне разглядаецца, як яшчэ адзін варожы выпад францускіх рэакцыянэраў супроць СССР.



* * *

На конфэрэнцыі у Гаазе, што нядаўна скончылася, быў зацьверджан новы плян рабаваньня Нямеччыны (плян амэрыканца Юнга).

У складзе нямецкай дэлегацыі быў дырэктар нямецкага рэйхс-банку Шахт (мал. 2-гі справа).

Ш а х т — стаўленьнік амэрыканскага капіталу, фінансавы дырэктар Нямеччыны, на конфэрэнцыі выступіў ня толькі супроць францускіх і ангельскіх дэлегатаў, але і супроць нямецкіх дэлегатаў. Шахт стала выступае з патрабаваньнем абмежаваньня дапамогі беспрацоўным, вядзе палітыку зьніжэньня заработнае платы рабочым.



За лік гэтай „эканоміі", нямецкая буржуазія плаціць ваенную даніну пераможцам імпэрыялістычнае вайны 1914—18 г.

* * *

Індыя—„пэрла брытанскай кароны"—найбагатшая ангельская колёнія, рашуча ўвайшла ў паласу нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху. У сувязі з моцным ростам мясцовай прамысловасьці, між індыйскімі і ангельскімі капіталістымі пачалася заядлая конкурэнцыя за рынкі збыту. Шпарка вырасьлі магутныя кадры пролетараў, клясавымі бойкамі якога ўсё больш кіруе комуністычная партыя.



Перад індыйскай буржуазіяй стаіць цяпер неразьвязальная задача: з аднаго боку, даводзіцца змагацца з ангельскімі фабрыкантамі, з другога — пры падтрыманьні ангельскай буржуазіі, змагацца з „уласным" пролетарыятам.

Вось гэта двоістасьць становішча і адбіваецца на палітыцы ўсеіндыйскага нацыянальнага конгрэсу, у якім галоўнае месца займае партыя свараджыстых (нацыяналістых). Параўнаўча, нядаўна нацыянальны конгрэс патрабаваў даць Індыі правы самакіруючага доміниёну, аднак, цяпер, пад ціскам рэволюцыйных мас, конгрэс прымушан быў абвясьціць, што ён патрабуе поўнай незалежнасьці Індыі ад брытанскай імпэрыі, абвяшчае бойкот законадаўчым установам і адмаўляецца ад удзелу ў наступнай англа-індыйскай конфэрэнцыі.





Але лідэры індыйскага нацыянальнага конгрэсу спалохаліся сваёй уласнай „рэволюцыйнасьці", і цяпер заяўляюць, што яны гатовы дагаварыцца з ангельскай буржуазіяй аб тым, каб даць некаторыя палітычныя і эканомічныя правы Індыі.

Удасца ім дагаварыцца ці не — пакажа будучыня. Ва ўсякім выпадку, рашаючае слова скажа індыйскі пролетарыят, які змагаецца і супроць ангельскага імпэрыялізму і ўласнай буржуазіі.

На малюнку: трэці справа старшыня ўсеіндыйскае конфэрэнцыі Патэль; у сярэдзіне зьверху: спэцыяльна пабудаваны ў гор. Лягоры будынак, у якім адбывалася конфэрэнцыя. Унізе—супроцьангельская дэмонстрацыя індусаў.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

## ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 год

НА ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

8-мі ГОД ВЫДАНЬНЯ



ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

**„МАЛАДНЯК“** зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру

**„МАЛАДНЯК“** на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры

**„МАЛАДНЯК“** будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, апавесьці, поэмы, вершы, драм. творы)

**„МАЛАДНЯК“** у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік

**У „МАЛАДНЯКУ“** будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-ца | | На 1 м-ц | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | — | 1 | 60 | — | 90 | — | 30 |

ЦАНА Ў РОЗЬНІЧНЫМ ПРОДАЖУ **40 К.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агентствах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

## Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

## ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ Ў ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ **ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ**

ПЕРШЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ**

і

ШТОМЕСЯЧНЫ БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, ПАЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ,

# „П О Л Ы М Я“

**12 КНІЖОК**

**замест 12 рублёў —**

**толькі 10 руб.**

Падпісчыкі, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць на працягу 1930 г. адразу два часопісы — **„Чырвоная Беларусь“** і **„Полымя“**.
Падпісчыкі час. **„Полымя“**, якія ўжо ўнесьлі гадавую плату, будуць атрымліваць час. **„Чырвоная Беларусь“** **дармова.**

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 63), яго агентура, акруговыя аддзяленьні і ўсе кнігарні БДВ, кіёскі контрагенцтва друку, усе пошты і лістаносцы ў гарадах і вёсках БССР

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1930 ГОД

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“**

На 1 год . . . . . **3** р.
„ паўгода . . . . **1** р. **50** к.
„ 3 месяцы . . . . . . **75** к.
Цана асобнага нумару . **15** к.

**„П О Л Ы М Я“**

На 1 год замест 12 р. — **10** руб.
„ паўгода . . . . . **5** руб.
„ 3 месяцы . . . . **3** руб.
Цана асобнага нумару **1** руб.

Друкарня БДВ. Зак. № 348. Галоўлітбел № 1031.